ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА ДЛЯ СУАЙЧЫННІКАЎ ЗА МЕЖАМІ БАЦЬКАЎШЧЫНЫ

# Голас Радзімы

№ 16 (2366) 21 красавіка 1994 г. Выдаецца з 1955 г.

Цана 100 рублёў.

## КРОК ДА РАСІІ: КРОК ДА ЧАГО?



**Крыху перафразіруючы Леніна, можна сказаць: дагавор аб аб'яднанні грашовых сістэм Расіі і Беларусі, пра які так доўга і ўпарта гаварыў В.Кебіч, нарэшце падпісаны. Адбылося гэта ў Маскве 12 красавіка 1994 года.**

**Запомніце гэту дату.**

**Толькі гісторыя ацэніць руска-беларускі дагавор: што ён дасць нашаму народу? Сытае і бязбеднае жыццё? Страту незалежнасці?**

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

*З БІЯГРАФІІ Антона СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКАГА*

## НА МЯЖЫ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ

Гэты допіс усяго толькі некалькі штрыхоў, якія, спадзяюся, дапоўняць даволі скупыя і часам супярэчлівыя звесткі пра Антона Сокал-Кутылоўскага, чыё імя ўсё часцей з'яўляецца на старонках розных выданняў, фігуру каларытную ў гісторыі беларускага нацыянальнага руху. Змяшчаем мы сёння і некалькі фотаздымкаў з сямейных альбомаў маіх бацькоў і сына А. Сокал-Кутылоўскага -- Леаніда Антонавіча, бо з гэтым родам знаходжуся, хоць і не ў крэўных, але ў нейкіх сваяцкіх стасунках: сын Антона Сокал-Кутылоўскгаа жанаты з сястрой майго айчыма.

Прозвішча Сокал-Кутылоўскі я чула з дзяцінства. Яно вабіла сваёй складанасцю і падабенствам з прозвішчам маёй блізкай сяброўкі Наташы Сокал-Сакалоўскай, сям'ю якой таксама напаткаў трагічны лёс: яны без папярэджання, мокрым сакавіцкім ранкам былі вывезены ў Казахстан і назад вярнуліся не ўсе...

Пра тое, што Антон Сокал-Кутылоўскі не проста бацька, дзед, ціхі і добразычлівы чалавек, а што вакол яго кіпяць страсці і ад яго сведчання ў многім залежыць, лічыць Слуцкае паўстанне мяцяжом горсткі незадаволеных ці выступленнем свядомай часткі беларусаў за незалежнасць сваёй дзяржавы, я даведалася, прыйшоўшы на працу ў "Голас Радзімы" (тады "За вяртанне на Радзіму"), калі карэспандэнты газеты прывозілі з Ганцавічаў, дзе ў той час ціхмяна жыў Сокал-Кутылоўскі, матэрыялы, у якіх ён сведчыў тое, што адпавядала патрабаванням часу.

Антона Андрэевіча я бачыла ў Навагрудку, куды ён прыязджаў да сына, але яркага ўражання не засталося.



**Антон СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ ў 1957 годзе ў Навагрудку пасля вызвалення.**

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

*ВОДГУЛЛЕ*

## МЕЦЬ АГУЛЬНАБЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ РЭЛІГІЮ

Высокашаноўная рэдакцыя "Голасу Радзімы"!

Дазволю сабе выказаць некаторыя меркаваньні адносна цікавага артыкула Міколы Крукоўскага "Інтэлігенцыя і беларуская ідэя", зьмешчанага на вашых старонках. Прымаючы ягоную крытычную частку, нельга цалкам згадзіцца з тым, што прапануецца як становчае вырашэньне праблемы беларускае ідэі. Як падаецца, аўтар зыходзіць поўнасьцю з патрабаваньня веры беларусаў у Бога. Але ці хопіць гэтага аднаго, калі яно не будзе нічым болей падмацавана?

Нягледзячы на вялікія каштоўнасьці гэтае веры, а дакладней, вераў (аб чым крыху далей), і яе вялікую маральную сілу, яна мае той істотны недахоп, што наўрад сама па сабе здолее скансалідаваць беларусаў у нацыю. Ужо нават само згарманізаваньне і збліжэньне беларусаў усіх канфесій, неабходнае для гэтага, запатрабавала б шмат часу: ёсьць жа сярод іх і праваслаўныя, і каталікі, і уніяты, ды напэўна й прадстаўнікі розных плыняў пратэстанцтва. Могуць быць таксама і прыхільнікі пазахрысьціянскіх веравызнаньняў: крышнаіты, дзэн-будысты, бахаіты -- плыні, папулярныя ва ўсёй Еўропе. А як быць з беларусамі атэістычнага сьветапогляду? Гэта ж таксама своеасаблівая вера. Рознаверных народаў, як беларусаў, шмат на сьвеце, і гэта, аднак, не перашкодзіла ім скласьціся ў нацыі. Сярод іх, не кажучы ўжо пра атэістаў, ёсьць розныя веры, але гэта не замінае кожнаму народу адчуваць сябе адзінай нацыяй. Гэтыя народы адчуваюць сябе і сапраўды ёсьць адзінымі нацыямі, бо ва ўсіх сваіх верах карыстаюцца адзінай для ўсіх сваёй роднаю мовай, а таксама маюць супольным тое, што варта было б, зыходзячы з першапачатковага значэньня слова, назваць адзінаю для кожнага з гэтых жа народаў нацыянальнай рэлігіяй. Слова рэлігія (ад лацінскага **рэлігіо**) ёсьць вытворным ад лацінскага дзеяслова **рэлігарэ**, які дакладна азначае "прывязваць ззаду". Такім чынам, рэлігія -- гэта тое, што прывязана да рэчаў, якія знаходзяцца ззаду, г.зн. у часе -- **у мінуўшчыне.** Для кожнага народа гэта ягоная традыцыя (гістарычная памяць), духоўная спадчына продкаў, -- нацыянальныя звычаі, усталяваныя на працягу вякоў маральныя нормы, ягоная гісторыя ў найвыдатнейшых падзеях, культ продкаў, славутых людзей, аб'ядНаных коранем "род" -- на ўсіх узроўнях (ад найбліжэйшых да найдальшых), г.зн. у межах такіх паняццяў, як **радзіна** (сям'я) -- **род** -- **народ** -- **Радзіма**. Калі параўнаць усю нацыянальную духоўнасьць з дрэвам, дык нацыянальная рэлігія (у згаданым сэнсе) -- гэта карані і ствол дрэва з ягоным найбуйнейшым гальлём, а розныя веры -- галіны яго вяршыні, якія, вырастаючы з яе, цягнуцца, як да сонца, да агульналюдскіх ідэалаў -- Бога (у ягоных розных вызнаўцаў) або Дабра, Справядлівасьці, Сусьветнай Гармоніі ў тых, хто, адкідаючы ідэю Бога, шукае нейкай іншай.

На падставе ўсёй сумы духоўных каштоўнасьцяў свае нацыянальнай спадчыны, таго, што можна было б назваць нацыянальнай рэлігіяй (незалежна ад таго, як пакуль гэтае ў каго завецца), у кожнага народа з часам складаецца своеасаблівы нацыянальны культ з сукупнасьці агульнанацыянальных сьвятасьцяў. Сюды ўваходзіць і культ славутых пісьменьнікаў (амаль увесь, асабліва ў "Фаўсце", "разарваны" на цытаты Гётэ ў немцаў або Дантэ ў італьянцаў, і своеасаблівыя сьвяты (сьвята песьні ў эстонцаў), і нешта ўжо блізкае да рэлігійнага культу нейкага веравызнаньня ("Кабзар" Шаўчэнкі, які параўноўваюць з нацыянальным Евангельлем украінцаў, ягоная магіла як сьвятое месца, звычай выслухоўваць сьпеў "Запавету" стоячы і да т.п.), і звычаі, звязаныя з уласнай культурай (звычай даваць у пасаг нявесьце паэму "Віцязь у тыгравай шкуры" ў грузінаў), і апяваньне месцаў выдатных падзей уласнай гісторыі (песьні аб Косавым полі ў сербаў), і г.д., і г.д. Беларусам таксама ёсьць на што абаперціся і чым ганарыцца ў сваёй мінуўшчыне, ёсьць у іх таксама ўсе тыя элементы, якія пры іхнім жаданьні маглі б скласьціся ў тое, што маюць усе сапраўдныя нацыі, у агульнабеларускую нацыянальную рэлігію (ці "культ", ці "ідэю", -- не мае, зрэшты, асаблівага значэньня, як гэта каму падабаецца зваць, бо зьмест зусім ясны). Беларусы маюць і цудоўныя звычаі, напрыклад, тыя самыя Дзяды, якія, дзякуючы вялікаму сыну Беларусі Міцкевічу, вядомыя цяпер усяму сьвету. Ёсьць у іх і багатая й драматычная гісторыя.

**(Заканчэнне на 7-й стар.).**

# ПАДЗЕІ ЛЮДЗІ ФАКТЫ

*ГРАМАДСКАЯ ДУМКА*

## ЯК УЗДЗЕЙНІЧАЦЬ НА ЎЛАДУ

**Паводле даных даследавання, праведзенага Незалежным інстытутам сацыяльна-эканамічных і палітычных даследаванняў, 43,5 працэнта з апытаных удзельнікаў рабочага руху прызналі найбольш эфектыўнай формай уздзеяння на ўладу маёмных рэферэндум і выбары. Таксама больш за іншых прыдатным для гэтай мэты спосабам 36,4 працэнта апытаных палічылі зварот да сродкаў масавай інфармацыі. А вось маючая адбыцца ў рэспубліцы кампанія па выбару прэзідэнта, па даных даследавання, прадастаўляе насельніцтву вельмі сціплыя магчымасці паўплываць на дзяржаўнае жыццё. На іх спадзяюцца толькі 12,9 працэнта ўдзельнікаў апытання. Найбольш скептычна жыхары Беларусі ацэньваюць здольнасць уздзейнічаць на ўладу свабодных прафсаюзаў, ранейшых прафсаюзаў і мясцовых органаў улады. Іх уплыў адзначылі адпаведна 17,2, 8,1 і 9 працэнтаў рэспандэнтаў.**

*НА СОЙМЕ БНФ*

## З. ПАЗЬНЯК — КАНДЫДАТ У ПРЭЗІДЭНТЫ

**Адбыўся сойм Беларускага народнага фронта "Адраджэнне", дэлегаты якога афіцыйна зацвердзілі кандыдатам ад БНФ на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах свайго лідэра Зянона Пазьняка.**

**Акрамя таго, на сойме была прынята заява, у якой гаворыцца, што Народны фронт будзе весці "цывілізаваную передвыбарную барацьбу без абразаў і прыніжэнняў сваіх апанентаў". Дэлегаты сойма БНФ прапанавалі таксама іншым беларускім палітычным партыям і рухам прыняць аналагічныя заявы.**

*"У нармальнай краіне гэты дакумент ніхто б нават не абмяркоўваў, таму што ён парушае Канстытуцыю суверэннай дзяржавы. Бо ў Канстытуцыі сказана, што Рэспубліка Беларусь будзе праводзіць сваю самастойную знешнюю і ўнутраную палітыку, што ў яе будзе свой нацыянальны банк, які ажыццяўляе эмісію грошай і рэгулюе грашовую сістэму. Тая ж Канстытуцыя забараняе заключаць міжнародныя дагаворы, якія супярэчаць нашаму Асноўнаму Закону. Падпісаны ж дакумент прадугледжвае, адкрыта скажам, ліквідацыю нашага Нацыянальнага банка, і ў той самы час нас спрабуюць запэўніць, што ні кропляй суверэнітэту мы не ахвяруем!*

*У свой час спадар Кебіч сказаў, што аб'яднанне грашовых сістэм -- мэта ягонага жыцця. Безумоўна, кожны чалавек мае права імкнуцца да сваёй мэты. Але адна справа, калі ён ахвяруе пры гэтым нечым асабістым, і зусім іншае, калі ў ахвяру прыносяцца інтарэсы цэлага народа, беларускай дзяржаўнасці, калі адбываецца здача Беларусі..."*

*Віктар АЛАМПІЕЎ, намеснік старшыні парламенцкай Камісіі па эканамічнай рэформе, дасягненню эканамічнай самастойнасці і суверэнітэту рэспублікі.*

*ДЫПЛАМАТЫЧНАЯ ХРОНІКА*

## НОВЫ ПАСОЛ БЕЛАРУСІ Ў ВЯЛІКАБРЫТАНІІ

**Указам Прэзідыума Вярхоўнага Савета Беларусі Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Рэспублікі Беларусь у Польшчы Уладзімір Сянько вызвалены ад сваіх абавязкаў і прызначаны Надзвычайным і Паўнамоцным Паслом у Злучаным Каралеўстве Вялікабрытаніі і Паўночнай Ірландыі.**

*У КАНТРОЛЬНАЙ ПАЛАЦЕ*

## З ДЗЯРЖАЎНАЙ КІШЭНІ

**Эканоміцы рэспублікі за мінулы год нанесены ўрон на 22 мільярды рублёў і 47 мільёнаў долараў. Такую лічбу на справаздачным сходзе Кантрольнай палаты Рэспублікі Беларусь абнародаваў 11 красавіка яе старшыня Васіль Саковіч. Выступаючы з дакладам, ён паведаміў, што за 1993 год супрацоўнікамі кантрольнага органа праведзена больш як 2 тысячы праверак. Іх вынікам было вяртанне ў бюджэт незаконна расходаваных дзяржаўных сродкаў на агульную суму 10 мільярдаў рублёў і амаль на 18 мільёнаў долараў.**

**Немалая доля фінансавых парушэнняў выяўлена ў галіне інвестыцыйнай дзейнасці, многія махінацыі звязаны са знешнеэканамічнай дзейнасцю. У сувязі з гэтым Кантрольная палата выступіла з ініцыятывай стварэння ў рэспубліцы міжнароднага камерцыйнага арбітражу і адзінай інфармацыйнай базы па асноўных знешнегандлёвых рынках і кан'юнктуры цэн.**

*ПАВОДКА*



**Некалькі гадоў не паказвала Прыпяць круты свой нораў тут, у наваколлях Мазыра. А сёлета землі некалькіх садаводчых таварыстваў у раёне вёскі Бабраняты апынуліся пад вадой (на здымку). Прычынай стала тое, што яшчэ зімой утварыўся ледзяны затор на Прыпяці. Спадзяваліся, што ўвесну, калі кранецца лёд, пойдзе і вада. Але не!**

**Ужо час і зямлю апрацоўваць (самы паўднёвы раён рэспублікі), а даводзіцца плаваць на лодках...**

**Чаго не падкіне прырода!**

*У БЕЛАРУСІ І ЛІТВЕ*

## РОЗНЫЯ МОВЫ, РОЗНЫЯ ЎМОВЫ...

**У віленскім друку іранізуюць з літоўскай школы ў беларускай вёсцы Пеляса. На 10 вучняў там прыпадае 10 настаўнікаў, адзін з якіх -- доктар навук, а астатнія маюць вышэйшую адукацыю.**

**У параўнанні з літоўскай школай у Беларусі зусім не забяспечанай выглядае беларуская школа ў Вільні, якую наведвае больш за 100 вучняў і класы якой раскіданы па розных школах горада. Ці атрымае беларуская школа ў новым навучальным годзе асобнае памяшканне ў зручным месцы, пакуль невядома.**

*РАБУЕМ СЯБЕ*

## ХЛЕБНАЯ "КАНТРАБАНДА"

**Самачынны экспарт хлеба з Віцебска на Смаленшчыну, падобна, ужо сур'ёзна закрануў эканамічныя інтарэсы расійскіх хлебапёкаў. У Рудні, куды штодзённа прыбывае дызель-цягнік з Віцебска, у хлебазавода ўзнікла сур'ёзная праблема збыту.**

**Кампетэнтныя органы суседніх абласцей спрабуюць сумесна супрацьстаяць хлебнай "кантрабандзе". Але ні штрафы, ні пагрозы крымінальнай адказнасці пакуль не ў стане спыніць віцебскіх прадпрымальнікаў.**

*ФІНАНСАВАЯ КАРПАРАЦЫЯ*

## ДЛЯ МАЛОЙ ПРЫВАТЫЗАЦЫІ

**Каардынацыйны цэнтр Міжнароднай фінансавай карпарацыі, які адкрыўся ў Мінску 7 красавіка, будзе рэгуляваць работу МФК па аказанню тэхнічнай дапамогі ўраду і гарадскім адміністрацыям Беларусі па праекту малой прыватызацыі ў рэспубліцы.**

**Міжнародная фінансавая карпарацыя з'яўляецца членам Сусветнага банка і ўваходзіць у сетку Арганізацыі Аб'яднаных Нацый. Яе мэта -- падтрымка прыватнага сектара ў 150 краінах свету. Дарэчы, Беларусь -- першая з рэспублік былога Савецкага Саюза, якая стала членам МФК. Праект "Малой прыватызацыі ў Беларусі" фінансуецца Агенцтвам ЗША па міжнароднаму развіццю.**

*ЖЫЦЦЁ КАНФЕСІЙ*

## ЦАРКОЎНАЯ ГАЗЕТА

**"Уваскрэсенне" -- так называецца газета, якую пачала выдаваць царкоўная абшчына ў Добрушы. Выходзіць яна будзе раз у месяц, несці да чытачоў слова высокай маралі, прапаведаваць любоў да бліжняга, міласэрнасць.**

## НЯДЗЕЛЬНАЯ ШКОЛА

**У будынку Брэсцкай бібліятэкі навукова-тэхнічнай інфармацыі, перададзеным вернікам мясцовага касцёла, цяпер месціцца Дом міласэрнасці, а таксама нядзельная школа. Адбылося ўрачыстае асвячэнне будынка.**

*СЕНСАЦЫЯ*

## ВЕРНУТЫ БАЦЬКОЎСКІ ДОМ

**Беспрэцэдэнтны выпадак, калі справядлівасць усё ж перамагла, адбыўся ў Горацкім раёне Магілёўскай вобласці. У канцы 20-х гадоў жыхар вёскі Панкратаўка Майсей Гладкі быў аб'яўлены "ворагам народа" і рэпрэсіраваны. Дом, дзе ён жыў, і ўсю яго гаспадарку ўлады канфіскавалі.**

**Пасля пасмяротнай рэабілітацыі Гладкага яго дачка на працягу некалькіх гадоў змагалася за тое, каб вярнуць сабе бацькоўскую хату, у якой размясцілася мясцовая бібліятэка. Спачатку Горацкі райвыканком прапанаваў спадчынніцы вярнуць кошт некалі адабранага ў яе бацькі дома, аднак тая ад грошай адмовілася. І вось у пачатку гэтага года справядлівасць перамагла: сядзіба вярнулася да сваіх законных уладальнікаў.**

*ВІНШУЕМ*

## ПЕРШАЯ ПРЭМІЯ

**Супрацоўніца "Голасу Радзімы" Вераніка ЧАРКАСАВА атрымала першую прэмію на конкурсе ІІ Міжнароднага салона "Рэклама. Выдавецкія сістэмы. Аператыўная паліграфія", які прраводзіла былое Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Такую высокую ацэнку далі спецыялісты яе аналітычна-публіцыстычнаму артыкулу "Набуду--прадам оптам усё" ("ГР" N 5 ад 4 лютага 1993 г.).**

**Радуемся творчаму поспеху нашага маладога калегі.**

*ЛУНІНЕЦКІ ЮБІЛЕЙ*

## ГІСТОРЫКІ ЎНОСЯЦЬ КАРЭКТЫВЫ

**Лунінец яшчэ ў 1990 годзе адзначыў свой юбілей -- 450-годдзе заснавання горада. Але гісторыкамі выяўлены больш раннія ўпамінанні аб Лунінцы -- датаваныя 1449 годам. А гэта значыць, што ўжо сёлета горад павінен адзначыць сваё 545-годдзе. Прыйдзецца таксама прыводзіць у адпаведнасць з новымі рэаліямі і гарадскі герб.**

*ВЕСТКІ АДУСЮЛЬ*

ЛЕСАВОДЫ Віцебшчыны не першы год экспартуюць у Швецыю насенне елкі. Там яна добра сябе зарэкамендавала: хутка расце -- на 8--10 сантыметраў больш, чым прыбаўляюць за год скандынаўскія елкі. Адпраўлены яшчэ 2 тоны насення на суму 320 тысяч долараў.

ПРЭМ'ЕРА "Маўглі" -- спектакля паводле вядомага твора Кіплінга -- адбылася ў Мінскім абласным тэатры лялек "Батлейка", што ў Маладзечне. Малады рэжысёр Віктар Калядзіч паставіў яго ў жанры філасофскай прытчы.

ГРАФ Аляксандр Прушынскі, грамадзянін Канады польскага паходжання родам з Беларусі, які даўно ўжо вылучае сябе кандыдатам у прэзідэнты нашай дзяржавы, 7 красавіка быў затрыманы ў сябе на кватэры і адвезены ў следчы ізалятар. Гарадская пракуратура інкрымінуе яму "парушэнне статуса знаходжання замежных грамадзян на тэрыторыі рэспублікі". Граф правёў 5 сутак у турме па вуліцы Валадарскага ў Мінску, а затым быў дэпартаваны з Беларусі. А. Прушынскага давезлі да самага Брэста.

У ДЗІЦЯЧЫХ САДКАХ у 579 групах навучаюць беларускіх дзяцей (каля 10 тысяч) замежным мовам. Яшчэ каля 1,5 мільёна вучняў авалодваюць чужой мовай у 3 972 базавых і сярэдніх школах, 61 гімназіі, 21 ліцэі, 2 каледжах і 197 прафесійна-тэхнічных вучылішчах. Распаўсюджана выкладанне ў Беларусі 4 моваў -- англійскай (вывучаюць 61,7 працэнта школьнікаў), нямецкай (25 працэнтаў), французскай (11,2 працэнта), іспанскай (2,6 працэнта).

АДНАЎЛЯЕЦЦА праваслаўная царква ў Сапоцкіне на Гродзеншчыне. Некалі гэта быў цудоўны храм з прыходскім жаночым вучылішчам пры ім. У канцы 20-х гадоў царква была закрыта польскімі ўладамі. Пры бальшавіках яна ўшчэнт была разбурана. У аднаўленні царквы чынны ўдзел прымаюць праваслаўная абшчына, калгас "Беларусь" Сапоцкінскага раёна, лясніцтва ды іншыя мясцовыя арганізацыі.

ЗНОЎ растуць цэны. Праз два тыдні пасля папярэдняга павышэння цана на белую гарэлку ў Беларусі паднялася ўжо да 9--10 тысяч рублёў за паўлітровую бутэльку. Для арганізацый падаражэў тэлефон і адпраўляемая па пошце карэспандэнцыя. У 2 разы -- простае пісьмо, у 4 -- заказное. Таксама ў 2 разы паднялася плата за тэлефонную і тэлеграфную сувязь па рэспубліцы.

У ПІНСКУ "пераязджаюць" на новае месца помнікі М.Горкаму і Веры Харужай. Тэрыторыя, дзе ўзвышалася бронзавая постаць пралетарскага пісьменніка, аддадзена Пінскаму епархіяльнаму ўпраўленню. А помнік вядомай падпольшчыцы "перашкаджае" будынку драматычнага тэатра, які брэсцкі архітэктар В.Талкачоў наважыўся ўзвесці менавіта ў гэтым месцы.

## НАТАТКІ З ПАДАРОЖЖА

# НАДЫШОЎ ЧАС ЛЮБІЦЬ

Чуткі пра тое, што ў графіні гасцююць рускія -- а так тут называюць усіх з былога СССР -- вельмі хутка разнесліся па Сістэрмюэ і дасягнулі суседняга горада Эльмсхорна. Нас спынялі на вуліцах і ў магазінах, распытвалі пра здароўе, пра тое, як нам падабаецца ў Германіі. Аднойчы да нашай гаспадыні звярнулася сям'я этнічных немцаў, якія ўсяго год таму прыехалі з Расіі і ўладкаваліся тут, і запрасіла нас да сябе ў госці. "Выбачайце, вельмі хочацца пагаварыць па-руску", -- сказалі яны. Паколькі наша 72-гадовая гаспадыня -- жанчына вельмі энергічная, хутка мы ўжо пад'язджалі да невялікага прыгожага доміка. Гаспадары -- немаладыя ўжо муж і жонка -- выйшлі сустракаць нас. А на стале нас чакалі добры ўкраінскі боршч, катлеты з бульбай і гарэлка, праўда, нямецкая. За абедам Моніка і Іган расказалі нам сваю гісторыю -- сумную і ў нечым тыповую для немцаў з былога СССР.

Нарадзіліся ў Запарожжы, пасля пачатку вайны былі высланы ў Сыктыўкар, дзе працавалі на лесапавале, у 1956 годзе ўпершыню атрымалі пашпарты, пераехалі ў Казахстан і пачалі шукаць родных у Германіі. Толькі праз шмат гадоў апынуліся на гістарычнай радзіме. Зараз яны на пенсіі, жывуць у невялікім ціхім гарадку, дзе на атрыманы крэдыт пабудавалі ўласны дом, набылі аўтамабіль. На маё пытанне, ці сумуюць яны па радзіме, гаспадар адказаў таксама пытаннем: "А ці можна сумаваць па тым, чаго ў цябе ніколі не было? Дзе наша радзіма? -- працягваў Іган, -- у Запарожжы, дзе прайшло галоднае дзяцінства і дзе мы заўсёды былі чужымі? У Сібіры на лесапавале? У Казахстане, дзе апынуліся не па сваёй волі і бачылі, як па загаду з Масквы, начальнікамі, якія ніколі на свае вочы не бачылі той цаліны, аддаваліся загады ўзараць тысячы гектараў зямлі, на якой спрадвеку пасвілася жывёла, а цяпер даводзілася забіваць цэлыя статкі?" "Не было ў нас радзімы, -- сказала Моніка, -- ды і жыццё ў нас укралі..."

Гэтыя людзі пасля шматлікіх пакут у рэшце рэшт апынуліся на зямлі, дзе жылі іх продкі, дзе ўсе навокал размаўляюць на мове, якую яны ўсё жыццё лічылі роднай, і ўпершыню да іх, прыезджых, не ставяцца, як да чужых. Але ж нягледзячы на ўсё, падалося мне, што сумуюць яны па зямлі, дзе прайшло іх дзяцінства і юнацтва, дзе дагэтуль жывуць іх дзеці. Таму і гатуюць у Германіі ўкраінскі боршч і радуюцца магчымасці пагаварыць па-руску.

Шмат дзіўных і часам неверагодных сустрэч адбылося за гэтыя тыдні, але адна з іх для мяне асаблівая -- з Наташай Будаевай, маёй лепшай сяброўкай, з якой я дзесяць год правучылася ў адным класе мінскай школы. Потым яна выйшла замуж, паехала ў Ленінград, і бачыліся мы ўжо не часта. І раптам перад самым ад"ездам у Германію я даведалася, што Наташа, якую я не бачыла ўжо шэсць год, жыве ў Гамбургу, куды ад Сістэрмюэ паўгадзіны язды. Тэлефонны нумар яе знайсці было нескладана...

Як апынулася мая сяброўка ў Германіі? Муж яе, капітан са стажам, уладкаваўся на працу па кантракту ў фірму партовага горада Гамбурга, туды і пераехала ўся сям'я. Жывуць, дзякуй Богу, добра, маюць кватэру ў цэнтры горада, машыну, дзеці валодаюць нямецкай мовай значна лепш за бацькоў. Хочуць дамоў. Ведаю, нехта скажа: з глузду з'ехалі, калі ад добрага жыцця сюды імкнуцца, а нехта проста не паверыць. Я -- веру, бо дом ёсць дом, які б ні быў, ён твой уласны, і толькі ў ім адчуваеш сябе на месцы.

Не ведаю, як павінны былі размясціцца зоркі на небе, каб дзве жанчыны, што нарадзіліся на Беларусі, якім шмат год не выпадала сустрэцца, у рэшце рэшт знайшлі адна адну ў далёкім Гамбургу. Але ж так атрымалася, і 6-гадовая дачка маёй Наташы (яе я бачыла ўпершыню) расказвала мне, якой я была шмат год таму, зусім маленькай дзяўчынкай... Я ж сама сябе ўжо не помню такой, якой засталася ў памяці маёй лепшай сяброўкі, што расказвае зараз аб нашым дзяцінстве сваёй маленькай Ксюшы.

Кожнага за мяжой прываблівае сваё. Аднаго -- архітэктура, другога -- магазіны, трэцяга -- новы лад жыцця. Асабіста мяне найбольш за ўсё цікавяць людзі незнаёмай для мяне краіны. Можа менавіта таму лёс і робіць часам падарункі ў выглядзе сустрэч з незвычайнымі і вельмі цікавымі асобамі, сустрэч, пра якія можна толькі марыць.

Дом кузіны нашай гаспадыні, графіні фон Кільмансеф, прынцэсы Рэнаты фон Каралат на карце зямлі Шлезвіг-Гольштэйн адзначаны як гістарычны помнік. Там праводзяцца музычныя фестывалі, выступаюць знакамітыя выканаўцы. Прынцэса Рэната паказала нам выдатны стары раяль, на якім іграў Святаслаў Рыхтэр, калі гасцяваў у гэтым доме, срэбранага лебедзя, пра якога пісаў шмат год таму Райнер Марыя Рыльке, які жыў тут, герб роду, які на чырвоным аксаміце амаль дваццаць год вышывалі срэбрам і золатам у манастыры... Акрамя гаспадыні і яе прыёмнага сына, нас сустракаў вельмі прадстаўнічы мужчына, які доўга распытваў аб становішчы ў Расіі і Беларусі, задаваў шмат пытанняў, прадэманстраваў выдатнае веданне рускай гісторыі і дня сённяшняга. Шчыра кажучы, мы прынялі яго за яшчэ аднаго члена гэтай вялікай сям'і, і толькі на шляху дамоў графіня растлумачыла, што іспанскі прынц Вільгельм фон Пройсен -- а гэта быў ён -- даводзіцца бацькам апошняму законнаму нашчадку расійскага прастола, маленькаму Георгію Раманаву, які разам з маці Марыяй жыве зараз у Францыі.

Я добра разумею, што сёння ўсе тытулы падаюцца нечым несур'ёзным і нават смешным. Ды і сама графіня не раз зазначала, што сёння гэта -- толькі фармальнасць і даніна мінуламу. І тым не менш, акружаючыя звярталіся да яе толькі з тытулам "фрау графіня" і з вялікай, нейкай асаблівай павагай. Але калі тытул па спадчыне пераходзіць аўтаматычна, то павагу да сябе, згадзіцеся, трэба заслужыць. Шчыра кажучы, ніколі не даводзілася сустракаць больш дэмакратычнага чалавека, чым гэтая патомная арыстакратка, якая не цураецца ніякай работы, практычна адна вядзе і даглядае свой вялікі дом, любіць працаваць у садзе. Графіня возіць з горада прадукты самай беднай хворай жанчыне ў пасёлку, ведае па імёнах жыхароў усёй акругі, спыняецца, каб спытаць пра здароўе і справы. А галоўнае, што ўсё гэта робіцца не на паказ, а натуральна і ад шчырага сэрца. Дзе б ні давялося з ёю бываць і з кім бы яна ні размаўляла, паўсюль графіня Размары фон Кільмансеф заставалася сабою -- аднолькавай з усімі, чулай жанчынай, якая вельмі проста, з дзіўнай годнасцю і добразычлівасцю ставілася да ўсіх. Падумалася, што менавіта гэтая прастата з'яўляецца прыкметай сапраўднай высакароднасці і добрага паходжання.

Не пакрыўлю душою, калі скажу, што з Германіі я ад'язджала крыху іншым чалавекам. Амаль месяц сярод людзей, якія не шкадавалі ні сіл, ні грошай, ні часу, каб дапамагчы практычна незнаёмым людзям, не можа не пакінуць следу ў душы. Імгард Ціме, актывістка таварыства "Дапамога ў бядзе", увесь час знаходзілася побач з намі. Гэта дзякуючы яе намаганням праводзяцца бясконцыя канцэрты і дабрачынныя кірмашы, на якіх збіраюцца грошы для нашых хворых дзяцей, яна дапамагае ім прыехаць у Германію на лячэнне і пратэзіраванне. А выдатны пратэз, які зрабілі майму бацьку, аплаціла буйнейшая гамбургская газета. Даведаўшыся з публікацыі ў мясцовым выданні пра бацькаву гісторыю, яе галоўны рэдактар патэлефанаваў нам, каб сказаць, што яны бяруць на сябе ўсе выдаткі. Не праўда гэта, што пасля трыццаці год чалавек ужо не заводзіць сяброў. Шкада, што стаўшыя блізкімі мне людзі так далёка ад мяне, і якое шчасце, што яны ёсць.

Так, няма нічога новага пад месяцам. Новае мы можам знайсці толькі ў сабе, калі сэрцам асэнсуем старыя і даўно вядомыя ісціны. Скончыўся час раскідваць камяні, надышоў час іх збіраць, скончыўся час забіваць, надышоў час лячыць, скончыўся час ненавідзець. Надышоў час любіць.

**Вераніка ЧАРКАСАВА.**

**Заканчэнне.**
**Пачатак у № 15.**

## *З БЛІЗКАГА ЗАМЕЖЖА*

# КАБ НАШ НАРОД І КРАЙ ПАВАЖАЦЬ

У 43-м нумары тыднёвіка "Наша слова" за 27 кастрычніка мінулага года была змешчана мая нататка "Зорка Венера" шукае сяброў", у якой я пісаў, што "без падтрымкі з Беларусі нам будзе цяжка..." Меў я тут на ўвазе не толькі ўстанаўленне кантактаў з вучнямі беларускіх школ, але і падтрымку матэрыяльную: падручнікі беларускай мовы, кніжкі беларускіх пісьменнікаў... Сёння магу канстатаваць той факт, што ёсць у "Зоркі Венеры" і сябры ў Беларусі па перапісцы, атрымалі мы шэраг так неабходных нам у працы па вывучэнню беларускай мовы, гісторыі Беларусі, яе літаратуры і культуры падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў, твораў мастацкай літаратуры. А даслалі нам усё гэта супрацоўнікі Рэспубліканскай навукова-педагагічнай бібліятэкі, дырэктарам якой з'яўляецца спадарыня А.Шамелава. Карыстаючыся момантам, хачу ад сваіх вучняў і ад сябе асабіста выказаць словы шчырай падзякі за такі каштоўны для нас тут падарунак!

Гурток наш носіць назоў "Зорка Венера", і таму мы вырашылі найперш пазнаёміцца з творчасцю славутага песняра зямлі беларускай, чый прах спачывае на зямлі ўкраінскай у Ялце, з Максімам Багдановічам. Скажу шчыра, што гэта мой найбольш улюбёны і паважаны мною беларускі паэт, поруч з ім я магу паставіць у сваім захапленні, бадай што, толькі Янку Купалу, Якуба Коласа, Уладзіміра Караткевіча, Ларысу Геніюш і Пімена Панчанку, а з маладзейшых Алеся Разанава і Анатоля Сыса... Але, прабачце, пра густы не спрачаюцца, ці не так?! Таму няхай не пакрыўдзяцца на мяне тыя паэты, чыя творчасць мяне не кранае. Я ўвогуле не разумею тых людзей, якія любяць пахваліцца, што ім падабаецца творчасць за паўсотні паэтаў... Але я адышоў крыху ўбок ад тэмы свайго допісу. Творчасць Максіма Багдановіча хвалюе мяне самога яшчэ са школьных часоў, таму ў маіх хатніх зборах кніг ёсць літаральна ўсё, што выдавалася ў Беларусі з ягонай спадчыны, у тым ліку зборнічак выбранай лірыкі "Зорка Венера", які выпусціла ў свет выдавецтва "Мастацкая літаратура" ў 1991 годзе. Са зместам гэтага зборніка я і знаёміў сваіх выхаванцаў, калі распавядаў пра жыццё і творчасць Максіма, аўтара славутай "Пагоні". Вялікую карысць прынесла і кружэлка фірмы "Мелодыя" з вершамі Багдановіча "Вянок", дзе, дарэчы, ёсць неўміручы раманс "Зорка Венера" ў выкананні Дзяржаўнай акадэмічнай харавой капэлы імя Рыгора Шырмы. Слухалі вучні, як гучыць паэзія Максіма Багдановіча ў выкананні беларускіх акцёраў Валерыя Анісенкі, Паўла Дубашынскага, Віктара Тарасава, і рабілі для сябе высновы: "Якая ж мілагучная, мяккая, прыгожая беларуская мова!"

А на апошнім спатканні гурткоўцы ладзілі конкурс чытальнікаў паэзіі Максіма Багдановіча, эпіграфам да якога былі ўзяты словы з ягонага верша-наказа "Настаўніку":

**Каб наш народ і край любіць,**
**Мудрэць і харашэць душою...**

Вельмі хораша, амаль без акцэнту чыталі вершы дзяўчынкі 6-Б класа Таццянка Юхімець ("Слуцкія ткачыхі"), Наталка Панчошна ("Не кувай ты, шэрая зязюля"), іхнія аднакласнікі Андрэй Раманчук ("Пагоня") і Уладзімір Якімчук ("Рандо"). Не засталіся "ў даўгу" і іх калегі з 6-А класа. Вельмі напеўна прагучаў верш Багдановіча "Актава" ў выкананні Іры Паварчук, а Аксана Каленікава натхнёна прачытала "Мая душа"...

**"У каго ты, дзяўчынанька,**
**тварай удалася,**
**Ці то у бацьку, ці то у матку,**
**ці у суседа Яся!**
**Стаў хлапчына ля дзяўчыны,**
**каламыйку грае,**
**На дзяўчыніны істужкі**
**нешта пазірае.**
**Ды не так ён на істужкі,**
**як на тыя вочы,**
**Як на тыя, браце, вочы, што**
**цямней ад ночы.**
**Слічна Галя Васілева, слічна**
**ды прыгожа:**
**Вочкі язны, сама красна, як**
**поўная рожа...**
**А чаго ж там на вуліцы**
**так сабакі брэшуць!**
**Йдзе Мікіта, а подкоўкі ажно**
**іскры крэшуць..."**

Не чытаў, а, здавалася, спяваў гэтыя радкі "ўкраінскай" песні Максіма Багдановіча вучань 5-Б класа Мыкола Лакыда, які і атрымаў на згаданым конкурсе галоўны прыз чытальнікаў -- томік твораў Максіма Багдановіча "Зорка Венера"... А ўсе астатнія ўдзельнікі атрымалі фатаграфіі Максіма Багдановіча і зборнікі дзіцячай паэзіі, дзе ёсць і вершы Максіма Багдановіча.

Першы этап, які можна ўмоўна назваць багдановічаўскім, знаёмства з беларускай літаратурнай спадчынай, завяршыўся. Пачынаецца другі, купалаўскі, які будзе працягвацца да канца навучальнага года. Маю таксама багаты збор твораў Янкі Купалы, у тым ліку і поўны збор твораў у 7 тамах, паасобныя зборнікі. Безумоўна, вывучэнне ягонай спадчыны пойдзе ў трох накірунках: паэзія, драматургія і публіцыстыка... "Ад прадзедаў спакон вякоў нам засталася спадчына" -- пад такім дэвізам заўтра адбудзецца першы ўрок паэзіі Купалы, а сёння... Сёння я старанна рыхтуюся да яго. І як тут зноў не ўспомніць добрым ловам усё тую ж фірму "Мелодыя", якая ў 1982 годзе парупілася выпусціць кружэлку да 100-годдзя з дня нараджэння Купалы, дзе славутую "Спадчыну" выконваюць "Песняры", добра вядомыя маім вучням. З праслухоўвання гэтага спеву і пачну я купалаўскі ўрок Паэзіі. Пачуюць дзеці і дакументальны запіс -- голас самога Янкі Купалы. Праўда, чытае Паэт не свой самы лепшы верш ("Песня будаўніцтву"), але дзеля таго, каб дзеці пачулі голас самога Паэта, я адкінў убок палітычныя амбіцыі. На гэтай жа кружэлцы і яшчэ адна славутасць -- Барыс Платонаў, і чытае ён урывак з паэмы "Курган", а гэта ж у беларускай культуры, у гісторыі беларускага тэатра імя Янкі Купалы такая асоба, якая будзе ў памяці не толькі нас, хто меў шчасце і гонар бачыць жывога Платонава на сцэне тэатра Янкі Купалы, але ў памяці ўсяго беларускага народа праз усе вякі...

Пішу гэты допіс і ўвесь час думаю, чаму ж так вось атрымоўваецца: дзеці-ўкраінцы, што жывуць у незалежнай дзяржаве Украіна, якая ніколі ні пры якіх абставінах ужо не вернецца да "саюза" ані з Расіяй, ані з Беларуссю, ані з Польшчаю, ці з кім бы там яшчэ, так старанна, з такім задавальненнем вывучаюць мовы двух суседніх славянскіх народаў -- польскую і беларускую? І ніхто вывучаць іх не прымушае! На маё пытанне: "Навошта табе спатрэбілася вывучаць беларускую (польскую) мову, у нас жа дзяржаўная мова ўкраінская?" -- дзеці адказваюць даволі шчыра: "Хачу ведаць мовы суседніх народаў, каб мог з імі размаўляць, калі паеду туды на экскурсію ці ў госці да сяброў па перапісцы. Ім жа будзе прыемна пачуць з вуснаў украінцаў родную сваю гаворку!" Ад такіх адказаў сэрца сціскалася ад жалю (радасці было, паверце, меней!), бо я добра ведаю моўную сітуацыю ў "суверэннай" Беларусі, дзе "народныя выбраннікі" пры галасаванні па праекту новай Канстытуцыі Беларусі (артыкул 17) выступілі сабатажнікамі дзяржаўнасці беларускай мовы. Няўжо новаму Старшыні парламента спадару Мечыславу Грыбу не ўдасца паўшчуваць "устрымаўшыхся" і "не галасаваўшых" на чарговым пасяджэнні, дзе будзе разглядацца зноў 17 артыкул новай Канстытуцыі Бела-

**(Заканчэнне на 5-й стар.).**

# НА АДНАЎЛЕННЕ РЭЛІКВІІ

У адпаведнасці з пажаданнямі, выказанымі на Першым з'ездзе беларусаў блізкага замежжа ў снежні 1992 г., Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" прыняло рашэнне аб аднаўленні агульнанацыянальнай каштоўнасці -- Крыжа Ефрасінні Полацкай. Крыж быў выраблены майстрам-ювелірам Лазарам Богшам у XII стагоддзі ў Полацку па заказу Ефрасінні Полацкай. Знік у час другой сусветнай вайны.

"Бацькаўшчына" падтрымала гэту ініцыятыву дзеля таго, каб у вызначальны для нашай краіны час хоць такім чынам вярнуць беларускаму народу яго духоўную святыню, забраную гвалтоўна ад нас чужынцамі і страчаную невядома дзе. У той час, калі вядуцца пошукі самога Крыжа, мы лічым патрэбным аднавіць яго ў такім выглядзе, як ён быў, каб людзі маглі бачыць, што мы страцілі, і каб самім прайсці цяжкі шлях стварэння рэліквіі.

Гэтую адказную працу па заказу ЗБС "Бацькаўшчына" выконвае мастак-ювелір з г. Брэста Мікола Кузьміч. Благаславенне на святую справу дадзена Мітрапалітам Філарэтам. Навуковыя доследы вядуцца з удзелам беларускіх навукоўцаў з Інстытута гісторыі АН Беларусі, найперш Г.Б. Штыхава, а таксама гісторыкаў з Масквы. Фінансаванне забяспечваецца з дапамогаю прадпрымальнікаў беларускай дыяспары. Найбольш значны ўклад робіць беларус з Сібіры -- Анатоль Сілівончык.

Дзеля далучэння да гэтай справы шырокай грамадскасці і дзяржаўных структураў пры ЗБС "Бацькаўшчына" створана грамадская Рада па нагляду за выкананнем работы.

Усіх, хто жадае прыняць удзел у гэтай святой справе і падтрымаць яе фінансавымі сродкамі, просім пералічваць іх на разліковы рахунак Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" з адзнакаю "На Крыж Ефрасінні Полацкай".

**Рублёвы рахунак:**
**700307 у АКБ "Беларусь" г. Мінска, код 795.**
**Валютны рахунак:**
**468070199 001 у Белзнешэканомбанку г. Мінска, код 226.**

**Сродкі з гэтых рахункаў, якія застануцца зверх затрат на Крыж, будуць перададзены на аднаўленне Спаса-Ефрасіннеўскага манастыра ў г. Полацку.**
**Тэлефон для даведак: 76-91-93.**

**Управа Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына".**

## З ГІСТОРЫІ ЎЗБУЙНЕННЯ БССР

# "ЛІЧЫЦЬ ДАКАЗАНЫМ..."

Эти рассуждения относятся не только к тому, что осуществление национальной политики в БССР при всем темпе работы отстает от решений. Эти рассуждения в большей мере относятся и к вопросу о незаконченности отмежевания всего района, который должно включить в границы БССР. Действительно, Гомельщина, часть Псковщины, даже Смоленщина относятся и русскими географами, и историками, и белорусскими к Белоруссии. То, что эти районы остаются в составе РСФСР, признается такой "несправедливостью", как угнетение Белоруссии западной в пределах Польши.

Присоединение части Смоленщины и Гомельщины к БССР в 1924 году имело чрезвычайно положительное политическое значение; это нашло свое отражение на страницах многих белорусских газет (некоторые документы см. в приложениях).[3]

Это расширение границ БССР вызвало значительное укрепление авторитета БССР в белорусских кругах заграницы, увеличило популярность лозунга "Минск -- культурный и политический центр Белоруссии". Завершением таких настроений, обусловленных также ростом СССР и БССР, можно считать белорусскую конференцию в Берлине в 1925 году, на которой сложило полномочия так называемое "Белорусское Народное Представительство".[4]

Резко отрицательную реакцию вызвало оставление в границах РСФСР -- Гомельской губернии. В последнее время, особенно в связи с пилсудчиной, этот вопрос начал опять живо обсуждаться. В газетах и брошюрах, выходящих за границей, видим: совершенно единодушое признание того, что Гомельщина по всем признакам является частью Белоруссии, "незаконно" остающейся в пределах РСФСР; заявления о том, что незаконченность государственного размежевания БССР свидетельствует о непоследовательности национальной политики Коммунистической партии; ожидание акта присоединения Гомельщины со стороны близких сочувствующих нам кругов.

Первые же сообщения из СССР о том, что вопрос о присоединении Гомельщины поставлен на обсуждение, печатались в заграничных белорусских и польских газетах жирным шрифтом, как сведения большого политического значения. Чрезвычайно характерен обостренный интерес к этому вопросу со стороны Польского Правительства (см. выписку из дневника Советника по белорусским делам при Полпредстве СССР в Польше тов. Ульянова о беседе его с Яниковским, зав. Восточным отделом Министерства Иностранных Дел Польши).[5]

4. ЦК КПБ направляет в Комиссию 5 комплектов имеющихся у нас материалов по вопросу о границах БССР. Просим сообщить, по каким вопросам требуются дополнительные материалы.

Просим привлечь на заседание комиссии представителей КПБ, сообщить возможно заранее о заседании Комиссии.

С коммунистическим приветом

А.Криницкий
Секретарь ЦК КПБ
*14 августа 1926 г.*

### № 4
### В КОЛЛЕГИЮ НКИД
### ДОКЛАДНАЯ ЗАПИСКА

В связи с изменением политики поль[ского] пр[авительства] в отношении к нацменьшинствам и усиленной работой поляков по втягиванию в сферу своего влияния тех белорусских общественных кругов, которые до настоящего времени стояли как бы на раздорожье, перед Коллегией НКИД должен, естественно, встать вопрос о парализовании работы поляков.

В связи с этим очень актуальным становится ускорение разрешения вопроса о расширении границ Советской Белоруссии (присоединение Гомельщины и 3-х уездов Витебщины). Расширение Советской Белоруссии в 1924 году было значительным ударом для польпра и антисоветских белорусских группировок и привлекло на нашу сторону симпатии широких масс Западной Белоруссии.

Политические белорусские группировки были все так неудовлетворены разрешением вопроса в том виде, как это было проведено, и еще на Берлинской конференции белорусских групп Польши, Литвы, Латвии и Чехо-Словакии в одной из резолюций, где говорилось о необходимости объединения Западной Белоруссии с Советской Белоруссией, было подчеркнуто, что крайне желательно экономическое объединение всех белорусских земель Восточной Белоруссии и присоединение к Советской Белоруссии тех белорусских земель, которые к ней еще не присоединены.

Как только в советской прессе появилась заметка, что Предсовнаркома БССР тов. Адамович ездил в Москву для окончательного разрешения вопроса о расширении границ Советской Белоруссии, -- это известие было перепечатано во всей белорусской прессе (на видном месте и жирным шрифтом). Поляков это известие тоже сильно обеспокоило.

Яниковский, начальник Восточного Отдела польского Мининдела, специально вызвал советника Полпредства (СССР) Ульянова и после ряда мелких вопросов перешел сразу к волновавшему их вопросу расширения Белоруссии. Было очевидно, что этим актом будет выбит из рук поляков козырь и возможность постоянных указаний прямо и через антисоветские белорусские группы на гнет московской культуры, на "утиск москалей" и т.д., чем они все время сильно оперируют. В дальнейшем к этому вопросу возвращались и Яниковский, и Вшелякий, и Литауэр, и видно было, что поляков это чрезвычайно беспокоит при их новой игре с нацменьшинствами.

Считая, что это будет акт, направленный против усиления поляков в Западной Белоруссии и Украине, Коллегии НКИД с своей стороны необходимо, по нашему мнению, подчеркнуть перед авторитетными инстанциями необходимость ускорения практического разрешения этого вопроса, подчеркнув политическое значение подобного рода акта, а также то, что затягивание практического разрешения этого вопроса в значительной степени ослабит политический эффект.

Это особенно необходимо потому, что решение Коллегии о незаинтересованности НКИД в этом вопросе является фактором, тормозящим практическое решение этого вопроса.

Зав. Отделом Прибалтики и Польши НКИД Логиновский
Советник Полпредства СССР в Польше Ульянов
*11 августа 1926 г.*

### № 5
### ВЫПИСКА
### ИЗ ПИСЬМА
### т. ОРЛОВА К
### т. ЛОГИНОВСКОМУ
### ОТ 18.VIII.1926 Г.

Известно Вам что-либо по вопросу об новом укрупнении БССР, т.е. присоединении Гомельщины и Невельского, Велижского и Себежского уездов Псковской губернии? В связи с общим положением вопрос этот имеет чрезвычайно важное и актуальное значение. Положительное разрешение его спутает карты у Пилсудского, и его попытки заигрывания с нацменьшинствами после такого акта несомненно будут обречены на неудачу.

*Унізе дапісана чарнілам: т. Орлов -- бывший зам. уполномоченного НКИД в БССР*

### № 6
### ВЫПИСКА
### ИЗ ПРОТОКОЛА № 98
### ЗАСЕДАНИЯ
### КОЛЛЕГИИ НКИД
### ОТ 8.IX.1926 Г.

11. Присоединение Гомельской губернии к БССР: настаивать в Политбюро, чтобы два уезда (Гомельский и Речицкий), в которых имеется несомненное белорусское большинство, немедленно присоединить к БССР, отложив решение в отношении остальных до Всесоюзной переписи.

Чичерин

### № 7

[З пісьма М.А.Арлова, часова выконваючага абавязкі Прадстаўніка НКІД СССР пры ўрадзе БССР да Ульянава А.Ф., саветніка Паўпрэдства СССР у Польшчы, 14.IX.1926 г.]

Уважаемый Александр Федорович!

Вопрос о Гомельщине сейчас разбирается в Правительственной Комиссии. Мне известно, что Коллегия НКИД по этому вопросу вынесла постановление о необходимости присоединения Гомельщины к БССР. Окончательно перспективы пока еще не выяснены. Насколько мне известно, существует три варианта решения этого вопроса: 1. Присоединение Гомельщины к БССР полностью. 2. Дробление Гомельщины с присоединением отдельных ее частей к БССР, УССР и Орлу и 3. разрешение вопроса после Всесоюзной переписи (перепись, как Вам известно, состоится в декабре этого года). Все это пока еще предположения; вопрос примет более конкретные формы после того как вернется тов. Криницкий с заседания Правительственной Комиссии. И мое сообщение поэтому носит характер предварительной информации для Вас.

### СЕКРЕТНО
### АКТ № I

7-го октября 1926 года Комиссия в составе т.т. Петерса[6], Павлюкевича и Пахомова, при секретаре т.Ванштейне посетила Уваровичскую волость

Для выяснения национального состава населения и его настроений Комиссия проводила работу 1) в волкоме Партии с активными работниками волости, 2) в волисполкоме, 3) с 2-мя учителями, 4) Комиссия посетила школу во время занятий младшей группы, 5) присутствовала в зале заседаний нарсуда во время судебного разбирательства и беседовала с отдельными крестьянами из пришедших на суд.

На основании этого Комиссия приходит к следующим выводам: 1. Население Уваровичской волости (около 50 тысяч) по своему происхождению и национальности в массе является белорусским. 2. Говорит население на "местном языке Гомельского уезда", который в основном является простонародной белорусской речью, с большой примесью русских слов. Наиболее активные элементы, побывавшие в армии и городах, на фабриках, говорят на почти чистом русском языке. 3. Национальное самосознание в массе населения отсутствует совершенно; никакого интереса к вопросу национальности население не проявляет. 4. Население в массе против перевода школ на белорусский язык. Попытки белорусизации школ в нескольких селах встретили сильное возражение со стороны населения и сопровождались отливом учащихся. Имеются два села, где население сначала неохотно встретило перевод школ на белорусский язык, но он постепенно вводится, и родители "успокоились". Всех белорусских школ в волости 5 из общего числа 41. 5) Газет выписывается мало, в большинстве русские. Гомельские Белорусские газеты выписываются в избы-читальни, школы и одиночками из населения. По отзывам учителей, в младших группах дети лучше усваивают белорусский язык.

Итоговые выводы:

1. По происхождению и национальности население белорусское.

2. Разговорный язык в основном белорусский, но сильно русифицированный.

3. Национальное самосознание у населения отсутствует.

4. Отношение к белорусизации:

а) большинство населения -- отрицательное[7]

б) меньшинство -- безразличное

в) одиночки -- положительное

Пред. Комиссии (Петерс)

Члены: (Пахомов)
(Павлюкевич)
Секретарь (Ванштейн)

*Гомель, 8.X.1926 г.*

**Працяг. Пачатак у № 15.**

---

[3] У дадатку — перадрукоўкі, у перакладзе на рускую мову, адпаведных матэрыялаў з беларускай эміграцыйнай і заходнебеларускай перыёдыкі, у прыватнасці В.Ластоўскага "Новы падзел Беларусі" (Крывіч, 1924, N 1(7), з газет "Змаганне", 1924, N 1, "Беларуская ніва", 1926, N 9 і інш.

[4] ІІ Беларуская нацыянальная канферэнцыя (Берлін, кастрычнік 1925), на якой была прынята заява аб самароспуску ўрада БНР і прызнанні БССР у якасці адзінага нацыянальна-палітычнага цэнтра Беларусі. Гэты крок у рэзалюцыі III Усебеларускай палітычнай канферэнцыі (Менск, ліпень 1993) прызнаны памылковым, неабгрунтаванай даверлівасцю да бальшавіцкіх уладаў.

[5] Дакумент N 4.

[6] Камісія на чале з Я.Х.Петэрсам, членам Калегіі ОГПУ, Камісіі партыйнага кантролю пры ЦК УКП(б).

[7] Вывад аб цалкавітай адсутнасці нацыянальнай самасвядомасці і адмоўных адносінах да беларусізацыі бальшыні насельніцтва Гомельшчыны малаабгрунтаваны і відавочна перабольшаны. Нельга не ўлічваць пры гэтым параўнальна вузкае кола жыхароў (у большасці партыйна-адміністрацыйнае чынавенства, традыцыйна ў сваёй аснове антыбеларускае з настрояў), з якім мела дачыненне камісія з Масквы; за абсягам увагі якой, як відаць з дакумента, апынуліся асабістыя факты заціску, маральнага і адміністрацыйнага праследавання мясцовымі функцыянерамі беларускіх актывістаў, іхніх нацыянальна-адраджэнчых пачынанняў (гл., напрыклад, публікацыю Ю.Васілеўскага "Гомельскі ганебны калідор". З гісторыі беларускага руху 20-х гадоў на Гомельшчыне") (Гомельскія ведамасці, 1993, 12 лістапада).



# НА МЯЖЫ ЖЫЦЦЯ І СМЕРЦІ

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).

Значна часцей, і нават адносна нядаўна ў час яго прыезду ў Мінск, сустракалася з Леанідам Антонавічам. Зараз ён жыве на Украіне, але добрыя справы засталіся пасля яго і на Беларусі. Пасля вайны менавіта ён быў тым чалавекам, які аднавіў музей Адама Міцкевіча ў Навагрудку, збіраў экспанаты, ствараў экспазіцыю, якая праіснавала доўгія гады. Пра сваё дваранскае паходжанне, пра бацькава мінулае жыццё Леанід Антонавіч ніколі не расказваў, ды я і не пыталася, разумеючы, што наўрад ці пачую праўду. І толькі ў канцы 91-га



года напісала сваякам пісьмо з просьбай расказаць усё, што палічаць патрэбным, пра Антона Сокал-Кутылоўскага.

"У пачатку XVIII стагоддзя мой далёкі продак па прозвішчу Кутылоўскі служыў на флоце Пятра І на галеры "Сокал", -- пісаў Леанід Антонавіч. -- Ішла Паўночная вайна, і каманда гэтай галеры ў бітве пры мысе Гангут патапіла два лінейныя караблі шведаў (сам Сокал-Кутылоўскі сведчыў, што "Сокал" удзельнічаў у баях супраць турэцкіх войск. -- **Д.Ч**). За удалую аперацыю кожны з каманды "Сокала" ўзнагароджваўся вялікім надзелам зямлі (100 гектараў) і атрымліваў дваранскае званне, радавы герб з занясеннем у геральдычную кнігу Расіі і пячатку, да прозвішча кожнага дабаўлялася слова Сокал. Так з'явіліся Сокал-Кутылоўскія (і, напэўна, Сокал-Сакалоўскія. -- **Д.Ч.**).

Кутылоўскаму была выдзелена зямля -- хутар Чырвоная Горка над ракой Лань у Лунінецкім павеце. Чырвоная Горка стала радавым маёнткам, дзе ў 1892 годзе нарадзіўся Антон Сокал-Кутылоўскі. Леанід Антонавіч піша, што ў дзеда было два сыны. Адзін займаўся гаспадаркай, а Антон Андрэевіч вучыўся ў гімназіі, у семінарыі, у Пецярбургскім універсітэце (па анкетных даных 41-га года, адукацыю меў сярэднюю). У 1918 або ў 1920 (у розных крыніцах розныя даты. -- **Д.Ч.**) А. Сокал-Кутылоўскі ўзяў шлюб з Аляксандрай Канстанцінаўнай Ясінскай, бацькі якой у Мінску мелі тры каменныя дамы і здавалі кватэры.

У канцы ліста Леанід Антонавіч пісаў, што пакуль што хопіць, у наступных пісьмах абяцаў расказаць пра бацьку болей, але чамусьці на гэтым спыніўся.

Затое адзін з нашых даўніх аўтараў прынёс мне шэсць нумароў газеты "Лунінецкія навіны", дзе друкаваліся матэрыялы з архіваў КДБ, даследаваныя доктарам гістарычных навук У. Міхнюком. Раённай газеце ён даў права першай публікаваць скарочаны варыянт нарыса пра Антона Сокал-Кутылоўскага, паколькі ён быў ураджэнцам гэтых мясцін.

Судовая справа Антона Сокал-Кутылоўскага была пачата 8 верасня 1945 года, пасля яго затрымання ў нямецкім горадзе Мюльхаўзене і закончана толькі ў 1948. Амаль тры гады бясконцых допытаў, турмаў, следчых, кожны з якіх патрабаваў "праўды". "Допыт вёўся з 22 гадзін 27 лістапада (1947 года) да 5 гадзін раніцы, быў пачаты ў 12 гадзін дня і працягваўся да 20 гадзін 28 лістапада. На наступны дзень з 10 гадзін да 16 гадзін. Па часу ён цягнуўся звыш 20 гадзін. Следчы грунтоўна высвятляў дэталі дзейнасці Сокал-Кутылоўскага ў гады Вялікай Айчыннай вайны", -- гэта цытата з нарыса А. Грыня і У. Міхнюка "Следству вядома...", надрукаванага ў "Лунінецкіх навінах". У гэтым нарысе аўтары прыводзяць дзесяткі старонак з двухтомнай справы N 18094, дзе падследны, знаходзячыся ў розных палітычных і маральна-псіхалагічных абставінах, адны і тыя ж падзеі інтэрпрэтуе зусім па-рознаму.

Гэта выдатна, што ў даследчыкаў з'явіўся доступ да забароненых раней дакументаў і архіваў. Але архівы КДБ асобыя, бо тычацца надта ж блізкага ад нас часу. Можа даследчыку, які вяртае з небыцця забытыя імёны, варта браць на сябе большую адказнасць і не толькі цытаваць дакументы, але і больш пэўна выказваць сваё стаўленне да таго, пра каго пішаш. Допыт -- гэта прымус, і не толькі маральны, часцей за ўсё дапытваемы, каб выжыць, гаворыць тое, што ад яго хочуць пачуць.

Лёс Антона Сокал-Кутылоўскага -- гэта большая частка жыцця на мяжы жыцця і смерці. Але яго паводзіны заўсёды былі натуральнымі і цалкам вытлумачальнымі. Ён ніколі не быў прыхільнікам Савецкай улады і бараніў тое, што складала сэнс яго жыцця. Дваранін, белы афіцэр, узнагароджаны за храбрасць салдацкім Георгіеўскім Крыжам, ваенны спецыяліст, ён змагаўся за тое, што было для яго сэнсам жыцця, за свой дабрабыт і прывілеі.

У красавіку 1948 года "56-гадовы ветэран антысавецкай барацьбы" быў прыгавораны да пазбаўлення волі на 25 гадоў. Ад вышэйшай меры пакарання яго выратавала толькі тое, што следства закончылася ў 1948 годзе, а ў маі 1947 была адменена смяротная кара.





У сваім апошнім слове перад тым як выслухаць прысуд, здаецца мне, Антон Андрэевіч быў вельмі пераканаўчым. І, прачытаўшы яго словы, каторы ўжо раз падумала, што ў любой спрэчцы не бывае аднаго вінаватага. Прызнаючы, што з першых дзён Кастрычніцкай рэвалюцыі ён з'яўляецца актыўным ворагам савецкай дзяржавы, Сокал-Кутылоўскі прасіў падзяліць сваю дзейнасць на два перыяды.

"Першы перыяд -- гэта калі я і многія іншыя маладыя адукаваныя людзі, якія віталі звяржэнне ў Расіі царызму, нечакана для нас вымушаны былі надзець афіцэрскія пагоны, за што ў першыя дні рэвалюцыі падвергліся знявагам і здзекам з боку Савецкай улады. За гэта я асабіста меў вялікую злосць за Савецкую ўладу, што і з'яўляецца прычынай выступлення супраць гэтай улады з майго боку. Звяржэнне царызму я вітаў, таму што думаў, што Расія будзе развівацца па іншаму шляху.

Другі перыяд маёй антысавецкай дзейнасці -- гэта калі ў 1939 годзе савецкія войскі ўступілі ў Польшчу, дзе я тады пражываў, і я вырашыў сумленна працаваць па выхаванню маладых людзей. Аднак займацца педагагічнай дзейнасцю мне органы Савецкай улады не дазволілі, а 20 чэрвеня 1941 года нават быў арыштаваны органамі НКУС і сям'я рэпрэсіравана. Арыштаваны я быў толькі таму, што ў перыяд грамадзянскай вайны выступіў супраць маладой савецкай рэспублікі. Вось за гэта я яшчэ больш быў раззлаваны на Савецкую ўладу, і, калі наша тэрыторыя была акупіравана нямецкімі войскамі, я актыўна павёў барацьбу з Савецкай уладай і стаў актыўным памагатым нямецкіх уладаў.

Мне хацелася б таксама нагадаць аб адной недакладнасці, што маецца ў абвінаваўчым заключэнні. А менавіта тое, што інспектарам паліцыі я не быў. Я толькі быў запрошаны праводзіць з паліцэйскімі гутаркі па павышэнню іх маральнасці, таму што паліцэйскія моцна крыўдзілі мясцовых жыхароў, п'янстваваі, распуснічалі. Ва ўнутранае жыццё і ў баявыя справы паліцыі я не ўмешваўся і дачынення да іх не меў. Зброі я не насіў, хаця пісталет меў".

Заканчваючы нарыс "Следству вядома...", аўтары пішуць, што, адбыўшы пакаранне (тэрмін зняволення быў значна скарочаны), А. Сокал-Кутылоўскі вярнуўся ў 1956 годзе ў Ганцавічы да дваюраднай сястры Веры Манкевіч, у доме якой па вул. Паштовай, 5/2, ціха і мірна правёў свае апошнія гады...

Менавіта пра апошнія гады жыцця Антона Сокал-Кутылоўскага я і хачу расказаць, бо памёр ён не ў Ганцавічах, і нават не ў Беларусі, а ў польскім горадзе Шчэціне.

"Адбыўшы пакаранне ў Мардовіі ў Саранску, станцыя Явас, дзе працаваў качагарам, Антон Андрэевіч у 1956 годзе вызваліўся, -- пісала Аляксандра Васільеўна, жонка Леаніда Антонавіча. -- Вярнуўся вельмі хворым, балелі ногі, твар быў абмарожаны. Жыў у Ганцавічах і трохі ў нас у Навагрудку, але дабіваўся дазволу выехаць у Польшчу, дзе жыла жонка Аляксандра Канстанцінаўна і дачка Таня з сям'ёй. Дазвол хутка атрымаў, але жыццё і там было нялёгкім. Антон Андрэевіч арандаваў агарод, але грошай усё роўна не хапала, выезд у СССР не дазваляўся. У 1965 годзе Леанід з Алегам (унук А. Сокал-Кутылоўскага, фізік, зараз жыве ў Екацярынбургу. -- **Д.Ч.**) ездзілі да іх у госці, чым маглі, дапамаглі. Адсюль жа, колькі ні спрабавалі пасланць, ні грошы, ні рэчы ў Польшчу тады не прымалі.

У 1980 годзе памерла мама Аляксандра Канстанцінаўна, бацька вельмі перажываў яе адыход з жыцця. Сам пражыў 91 год, памёр 7 сакавіка 1983 года ад рака".

**Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

**НА ЗДЫМКАХ: радавы герб Сокал-Кутылоўскіх; студэнт А.Сокал-Кутылоўскі; галера "Сокал"; Антон Андрэевіч (злева) з сям'ёй сына. 1957 г.; здымак зроблены ў 1965 годзе ў Шчэціне, дзе Антон СОКАЛ-КУТЫЛОЎСКІ жыў з жонкай у сям'і дачкі Тані (стаіць справа ад яго). Леанід Антонавіч з сынам Алегам (крайні злева) прыехаў да іх у госці.**



# КАБ НАШ НАРОД І КРАЙ ПАВАЖАЦЬ

(Заканчэнне. Пачатак на 3-й стар.).

русі?! Няўжо "нардэп" Лукашэнка, як ён напісаў у маскоўскай камуністычнай газеце "Правда", "человек от земли", не прагаласуе за дзяржаўнасць беларускай мовы?! Людзі ж вёскі, і па Лукашэнку, "земли", размаўляюць менавіта па-беларуску! Пара ўжо і гораду загаварыць на поўны голас па-беларуску, бо 90 працэнтаў жыхароў гэтых гарадоў -- уцекачы з вёсак! У пятніцу--нядзелю немагчыма спакойна сесці ў прыгарадныя цягнікі: "гараджане" едуць у вёскі за харчамі. У цягніках спрэс чуецца "гарадская" мова, мне толькі цікава, на якой мове яны просяць у сваіх вясковых бацькоў, сваякоў ці сяброў тую ж бульбу, бурак, моркву ці кавал сала?! Я з агідай на сэрцы слухаю ўсю гэтую цягніковую балбатню "па-рюску" з цвёрдым чэ і дзэце і штораз прашу Пана Бога пасланць нарэшце крыху павагі да мовы беларускай гэтаму тутэйшаму народцу, навучыць іх пачувацца беларусамі, зразумець у рэшце рэшт, што яны ўжо трэці год жывуць не ў Расейскай імперыі, так званым "СССР", а ў незалежнай краіне, якую сёння ведаюць ва ўсім цывілізаваным свеце! На правялікі жаль, слухаючы тут, за межамі Беларусі, так званае Беларускае радыё з Мінска, у мове вядучых праграм "Радыёфакт" і "Постфактум радыё" (другіх перадач я не слухаю з-за адсутнасці вольнага часу) пачуеш такую "мову", што пачынае ўзнікаць сумніў: ці перадача ідзе са сталіцы краіны?

У нас, беларусаў замежжа, вельмі баліць сэрца за свой народ, за сваю краіну, якой мы жадаем толькі дабра! Усім жыхарам краіны трэба ўсвядоміць сваю адказнасць перад будучымі пакаленнямі, якім жыць пасля нас у XXI стагоддзі, якую краіну, з якой дзяржаўнай мовай мы ім пакінем у спадчыну: самастойную, незалежную, з мовай, на якой стваралі свае лепшыя творы Васіль Быкаў і Іван Мележ, Янка Купала і Якуб Колас, Ларыса Геніюш і Максім Багдановіч, ці "паўночна-заходнюю губерню" Вялікай Расійскай імперыі з трасянкай, на якой ніхто нічога не тварыў, бо няма такой літаратурнай мовы?!

80 працэнтаў супрацоўнікаў Савета Міністраў Беларусі не валодаюць дзяржаўнай мовай краіны, у якой займаюць такія высокія пасады. Дзе, у якой краіне такое яшчэ можа быць?! Настаў час скончыць з несправядлівасцю да нашай роднай мовы, і сёння кожны беларус, асабліва інтэлігент, павінен падаць свой голас у падтрымку мовы, патрабаваць ад парламента надання толькі беларускай мове статуса дзяржаўнай мовы краіны. Веру, што яшчэ не ўсё страчана для яе, што мы яе выратуем ад знішчэння і захаваем краіну нашу, родную Беларусь, суверэннай і незалежнай.

Жыве Беларусь!

**Пятрусь КАПЧЫК**, **філолаг.**
г. Ізяслаў, Украіна.

Уладзімір КЛІШЭВІЧ

# ВАСІЛЬ КАЛІНА

### XII

Пачуўся стук. Васіль
ня верыў,
Прабег па нэрвах нібы ток.
Спусьціліся жалеза дзьверы,
Застукаў цяжаром замок.
Апошні крок. Матор заглох...
Прад Васілём турмы парог.
Васіль сябе самога слухаў:
"А можа заўтра я на волі...
А можа больш яе ніколі
Ня ўбачу я, як свайго вуха..."

### XIII

Васіль дарогаю сваёю
Спускаецца у ночы муць.
Яго два сябры па пакою
Ад страху гутарку вядуць:
"Я бачыў іншага бяду
І ўсё яшчэ не адыйду". --
Казаў адзін, па імю Гладкі, --
"Зрабілася сухое горла,
Ад страху дух у горле
сьпёрла,
Душа і сэрца лезьлі ў пяткі".

### XIV

На другім твар быў
бледна-хмуры,
Як быццам хто яго абскуб.
Часьцей ён вочы свае
жмурыў,
Адсьвечваў воблеск сініх губ.
"Чакай штоноч такой чумы,
Сягоньня ён, а заўтра мы...
З адное групы больш
за дзесяць
Студэнтаў кінулі за краты.
Калі ж цябе, скажы, вусаты,
На перакладзіне павесяць!"

### XV

Аб чым, Васіль, ты
зараз марыш!
Такіх, як ты, тут не адзін.
Заместа блізкага "таварыш"
Іх тут завуць "грамадзянін".
Зьявіўся раптам вартавы
З аружжам з ног да галавы:
"Ану, давай, пайшлі
са мною!"
Чуваць, як нехта кагось лае,
За лаянкай чуваць другая...
Падрыхтавацца трэба к бою.

### XVI

Каб іхны плян ішоў парадкам
І плёны добрыя прынёс,
Каб скончыць справу
хутка, гладка,
Хлапца прыпёрлі на дапрос.
"Архангел" хутка казырнуў,
А сам у дзьверы павярнуў.
Яго чакала сьледчых пара
З аблавай сьвежаю
на "воўка".
Аформіць справу спрытна,
лоўка:
Яго скура -- іх плян і мара.

### XVII

"Прашу, сядайце, калі ласка".
Васіль зьбянтэжана прысеў.
"Ня думайце, што
тут няўвязка", --
Загаварыў таварыш Леў.
"Запамятай сабе адно:
Цябе чакаем мы даўно.
Дапамагчы табе мы рады.
Цябе ж да контры прывязалі,
І ўжо даўно завербавалі
Супроць савецкае улады.

### XVIII

Перад табой цяпер задача:
Пакаяцца і змыць грахі
Сваёй душы. А то іначай
Адсюль ня вылезеш сухі.
На сэрца руку палажы,
Усю нам праўду раскажы;
Ты чалавек адукаваны,
Цябе вучыць ня трэба многа.
Прызнаць памылкі --
вось дарога,
Якою людзі лечаць раны.

### XIX

Калі і кім завербаваны
Ў арганізацыю ты сам!
Каго ўцягнуў ты сам!
Пра пляны
Найпадрабязьней
вылаж нам.
За прыгажосьць тваіх вачэй
Судзіць ня будзем
мы лягчэй.
Такі наш плян, яго аснова.
Я думаю, таго ты варты,
Каб вылажыць на стол
нам карты,
А мы праверым
праўду слова".

### XX

"Далёкі я ад канспірацый,
А ваша гутарка -- мне зьдзіў.
Ніякіх контрарганізацый
Нідзе ніколі не рабіў.
І не належаў да іх сам.
Я галаву адсекчы дам,
Што гэта так, а не іначай.
Ня кідаць словы нам
на вецер,
Як факты ёсьць, тады судзеце
Сваёй заўзятасьцяй гарачай".

### XXI

Ахвяр паводзін стары знаўца
Свой разьзяўляў
шырока зеў,
Халодна-вопытны дазнаўца,
Відаць было, што закіпеў.
Чыркаў няўважліва пяром.
"Невінаватых не бяром!"
Загаварыў, нібы у бочку.
Таварыш Леў чамусь забегаў,
Пайшло шаптаньне у калегаў,
"Амэрыканку" --
адзіночку..."

### XXII

Ідзе Васіль. За ім ахова.
Сьпярша наніз, пасьля
наверх.
Для Васіля дарога нова.
А вось ужо другі паверх
"Амэрыканкі". Тут яна --
Яго халодная труна.
Жыве Каліна ў новай хаце.
Пакой, да болі немагчыма,
Глядзіць халоднымі вачыма
Двух прыкаваных каравацей.

### XXIII

Васіль сядзіць, як у каробцы,
Яго жыцьця спыніўся рух,
Застыў на нейкай
мёртвай кропцы,
І сонца сьвет яму патух.
Сьвяціў у цемені адзін
Прамень -- мінулага ўспамін.
Ці ляжа спаць, ці рана ўстане,
Глыбей, ярчэй сьвятлом
дэталі
Перад вачыма прабягалі,
Нібы малюнкі на экране.

### XXIV

Круцілася пустое кола
На новым месцы новых з'яў.
Каб галава ня йшла
наўкола,
Ён мухі думак адганяў.
Як толькі ім ляцець дазволь,
Не аджанеш ад сэрца боль.
Заплюшч свае ад
страху вочы!
Вялікім горам ты багаты:
Твае сябры -- замок і краты,
Твая дарога -- мора ночы.

### XXV

"Дзе праўда ёсьць! Дзе
тая вера!
Як перажыць змагу ману!
За краты кінулі, як зьвера,
Хоць галавой прабі сьцяну.
О, гора! Думка, разгані
На сэрцы муку цішыні...
Скажы, што белы колер --
чорны.
Мне горла могуць
перагрызьці,
Каб толькі болей
меў карысьці
Крывавы млын і
яго жорны.

### XXVI

Ёсьць канстытуцыя такая...
Яе абманам трэба зваць.
Цану так Юда набівае,
Каб даражэй мяне прадаць.
Іх суд -- забруджаны базар,
Купляе той жа камісар,
Адно з адзнакаю Гулагу.
Як сілы ёсьць, трымацца буду,
Не падпішу папераў бруду,
Ляпей я тут касьцямі лягу..."

Працяг. Пачатак у №№ 13-15.



Незвычайны падарунак зрабіў нядаўна малады фермер вёскі Побалава Рагачоўскага раёна Юрый Петрушэнка мясцовай музычнай школе і яе вучням -- камплект інструментаў для духавога аркестра. Некалі, працуючы ў саўгасе, Юрый і сам удзельнічаў у мастацкай самадзейнасці. Ён і цяпер знаходзіць час зазірнуць на рэпетыцыю, праўда, толькі ў зімні час. Летам не да таго.

НА ЗДЫМКУ: фермер Ю. ПЕТРУШЭНКА з юнымі музыкантамі.

Фота Сяргея ХАЛАДЗІЛІНА.

# ВЯРТАННЕ ДА ВЫТОКАЎ, або ПРА ТВОРЧАСЦЬ ТАМАРЫ БОЛДАК-ЯНОЎСКАЙ

Тамара Болдак-Яноўская жыве ў Ольштыне. Паэтка, пісьменніца і скульптар уражлівай глыбіні. Народжаная на Беласточчыне, бадай што, ад дзяцінства яна ўбірала ў сябе той асаблівы клімат, які вызначае культуру памежжа. Беларуска з паходжання, яна адначасна як чалавек і як мастак даспявала ў кругу польскай культурнай спадчыны. У Варшаўскім універсітэце, дзе вучылася на філалагічным факультэце, пазнаёмілася з рускай літаратурай, што, напэўна ж, таксама мела нейкі ўплыў на яе мастакоўскае мысленне. І вось, спалучаючы ў сабе зацікаўленасць да трох славянскіх літаратур, у 70-х гадах пачала стварыць і сама.

Напачатку гэта была паэзія, затым проза і нарэшце скульптура і малюнак. І ў кожнай з гэтых галін праявіла адметны талент. Але і гэтага нібыта было ёй мала -- зацікавілася маляваннем ікон, якія потым паказвала на многіх выставах. Але Т.Болдак-Яноўская не бачыць ніякіх граніц паміж гэтымі галінамі мастацтва. Трактуе іх ва ўзаемасувязі, і таму на выставах, аўтарскіх вечарынах яе малюнкі, скульптуры, іконы і вершы прэзентуюцца як адно цэлае. Мастачка імкнецца ўздзейнічаць як бы памножаным вобразам. Таму менавіта вобраз, бадай, надзвычай важны ў яе творчасці. У паэзіі яна выкарыстоўвае вытанчаную метафару, нечаканае параўнанне, метафарычны эпітэт, вытокі якіх у культуры памежжа, і ўсё гэта дзеля стварэння надзвычай выразнага галоўнага вобраза. Аўтар узнімае самыя разнастайныя праблемы, змагаецца з рознага роду неталеранцыяй, імкнецца паглыбіць сэнс такіх паняццяў, як дабро і зло, віна і кара, любоў і нянавісць. Сваёй вобразнасцю паэзія Т.Болдак-Яноўскай будзіць не толькі эстэтычныя перажыванні, але схіляе да больш глыбокага роздуму. Лірычны герой яе паэзіі часта зазірае ў сябе, задае сабе пытанні: хто я ёсць? дзе мае вытокі? Адказ знаходзіць у глыбокім позірку іконы, макаўках вясковых цэркваў, паху міры, у маршчыністым твары старой беларускі з беластоцкай вёскі. Яе паэзія грунтуецца на аддаленых асацыяцыях, якія, аднак, урэшце ствараюць надзвычай выразны і пераканаўчы вобраз.

Паэтычная нота пранікае і ў яе прозу. Гэта найчасцей кароткія мініяцюрныя апавяданні нязвыкла сціслай і ашчаднай формы, і ў той жа час яны іскрацца столькімі адценнямі. Нядаўна мастачка апублікавала нізку такіх апавяданняў, сабраную пад адной назвай: "Наіўныя апавяданні (пра людзей з прыгранічнай паласы)". Як вынікае з падзагалоўка, іх героі -- жыхары беларускіх вёсак -- постаці каларытныя, авеяныя паэзіяй, яны ўспрымаюць свет праз міфы і паданні, што перадаюцца з пакалення ў пакаленне. І ў той жа час гэта людзі, якія нібы "завіслі" паміж двума светамі -- беларускім і польскім. Жывуць "тут" і "цяпер", але поўныя разладу, настойлівых пошукаў сваёй тоеснасці. Любяць сваю Аркадзію, свой Эдэм, але не хочуць замыкацца толькі ў яго межах. Часам наіўныя, і з гэтай прычыны ў іх узнікаюць канфлікты з акаляючай рэчаіснасцю. І ўсё ж яны заўсёды перапоўнены дабрынёй, своеасаблівай душэўнай цеплынёй, адкрытыя на чужую патрэбу. Гэта вельмі прыгожыя апавяданні, прыгожыя перадусім з пункту гледжання іх глыбока гуманістычнага сэнсу.

Тыя ж самыя героі насяляюць і майстэрню скульптара Т.Болдак-Яноўскай. І тут мастачка шукае натхненне ў тым памянёным каларытным памежжы, якое яна дасканала ведае. Т.Болдак-Яноўская займаецца разьбой па дрэву, і з-пад яе рукі выходзяць постаці старых, змучаных жыццём кабет і мужчын з мудрым поглядам, задумлівых, але заўсёды адкрытых, нібы жадаючых наладзіць кантакты з іншым чалавекам. Адметна, што ўсе скульптуры заўсёды маюць нейкі элемент, які дае магчымасць трактаваць іх не толькі ў катэгорыях твораў мастацтва, але і як прадмет ужытку. Выстаўляючы гэтыя скульптуры, Т.Болдак-Яноўская кожны раз укладае ў іх рукі, кошыкі, якія яны трымаюць, нешта надта ж канкрэтнае -- яблык, апельсін, цукерку. І такім чынам мёртвая натура нібы ажыўляецца, "устанаўлівае" своеасаблівы кантакт з тымі, хто яе бачыць, аглядае. Мастачка надае вялікае значэнне дэталям, якія змяшчаюць гэтыя скульптуры ў адпаведным культурным кантэксце. Скульптуры маюць розную форму -- ад вялікіх, авальных, ледзь прысадзістых фігур да стройных, амаль што мініяцюрных статуэтак.

Тамара Болдак-Яноўская вядомая і як аўтар шматлікіх эсэ, з якімі выступае на старонках розных часопісаў. У адным з іх яна, між іншым, напісала: "Людзей, падпарадкаваных элементу хаця б найменшай прыгажосці, яднае здзіўленне, і яны забываюцца пра тое, каб "угрызці" бліжняга... Усе хрысціянскія веравызнанні маюць агульнае Пісанне, крыху падпраўленае, а значыць, -- навошта далей рабіць выгляд, што ў адным веравызнанні мы маем больш праўды, чым у іншым. Няхай жа ў другой палове XX стагоддзя кожны моліцца, як хоча. Галоўнае, каб людзі дасканаліліся ў сваім імкненні да дабра і міру".

Прыгажосць, Дабро, Любоў, Мір -- вось найвышэйшыя каштоўнасці для Т.Болдак-Яноўскай. Яна сцвярджае іх у паэзіі, прозе, скульптуры і жывапісе. Нібы і не шмат, аднак жа надта многа, бо самыя простыя ісціны -- самыя цяжкія для ўвасаблення ў дзейнасці чалавечай адзінкі.

Беларуская дыяспара ў Ольштыне не такая ўжо і вялікая, але ў апошнія гады яе ўсё больш заўважаюць. Творчасць Т.Болдак-Яноўскай -- адна з праяў гэтага. І хоць аўтарка піша папольску, аднак у яе творчасці як паэта, празаіка, скульптара і жывапісца ёсць глыбокія беларускія карэнні. Вось прыклад суіснавання розных спосабаў успрыняцця рэчаіснасці. А гэта ўжо сапраўднае мастацтва.

**Валенты ПІЛАТ, прафесар.**

Ольштын, Польшча.

ДА 200-х УГОДКАЎ З ДНЯ НАРАДЖЭННЯ Яна БАРШЧЭЎСКАГА

# "Я НЕ ПЕРАЙМАЮ ФОРМАЎ..."

Да нядаўняга часу яго імя было вядома вузкаму колу навукоўцаў ды спецыялістаў. Толькі ў 1990 годзе ён стаў даступны ўсім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай свайго народа, дзякуючы выдавецтву "Мастацкая літаратура", якое ў серыі "Спадчына" выдала кнігу Яна Баршчэўскага "Шляхціц Завальня, або Беларусь у фантастычных апавяданнях" у перакладзе маладога навукоўца Міколы Хаўстовіча (вершы пераклаў паэт Сяргей Сокалаў-Воюш). Па сутнасці, гэта быў пачатак вяртання шырокаму беларускаму люду літаратурнай спадчыны аднаго з таленавітых пачынальнікаў новай беларускай літаратуры, пра творчы геній якога хораша сказаў сучаснік Яна Баршчэўскага, ягоны выдавец Рамуальд Падбярэскі: "Тое, што піша пан Баршчэўскі прозай, не датычыць непасрэдна ні гісторыі, ні літаратуры, ні мовы Беларусі, але мае сувязь з рэччу больш важнай, а менавіта з духам і паэзіяй народа, адкуль выйшлі і гісторыя, і літаратура, і мова. Ухапіўся ён за самую жыццёвую аснову і вырашыў паказаць у мастацтве вялікі народны вобраз".

Хто такі Ян Баршчэўскі? Што значыць ён для нас сёння? Спроба адказаць на гэтыя пытанні была зроблена на вечарыне, якая адбылася напрыканцы сакавіка ў Мінскім доме літаратара і была прымеркавана да 200-х угодкаў нараджэння пісьменніка. Вядучы гэтай імпрэзы, пісьменнік і перакладчык Уладзімір Мархель у сваім слове адзначыў, што, на жаль, мы мала ведаем пра Баршчэўскага, таму што дакументальных сведчанняў ці то не захавалася, ці то яны яшчэ не знойдзены. Дагэтуль дакладна не ўстаноўлена нават дата ягонага нараджэння. Калі верыць Р. Падбярэскаму, які асабіста быў знаёмы з Янам Баршчэўскім, гэта 1794 год. Аднак былі выказаны і іншыя меркаванні. Так, доктар філалагічных навук Генадзь Кісялёў схільны лічыць годам нараджэння нашага земляка 1790-ты, пра што сведчыць артыкул-некралог Юліяна Барташэвіча, дзе сказана, што "аўтар "Завальні" жыў 61 год". У той жа час запіс аб смерці Яна Баршчэўскага, знойдзены ў Жытомірскім архіве, сведчыць, што ён "меў ад роду каля 54 гадоў".

Даследчык творчасці Баршчэўскага Мікола Хаўстовіч паведаміў на вечарыне пра дакумент, знойдзены ў Пецярбургу, паводле якога пісьменнік нарадзіўся 16 снежня 1799 года, а, значыць, ягонае 200-годдзе яшчэ наперадзе. Чаму ж адбываецца такі разнабой у меркаваннях? Слушную, на мой погляд, думку выказаў Генадзь Кісялёў. Ён растлумачыў, што ў тыя часы да даты нараджэння чалавека ставіліся прасцей, не надавалі гэтаму факту такога значэння, як зараз. Звычайна ў дакументах указваўся толькі ўзрост. І, зразумела, маглі быць разыходжанні.

Месца нараджэння Яна Баршчэўскага -- полацкая зямля, вёска Мурагі, што на Расоншчыне, дзе прайшлі ягоныя дзіцячыя гады. Тут, у Полацкай езуіцкай калегіі, ён атрымаў адукацыю. На гэтай зямлі нарадзіліся першыя вершы, напісаныя па-беларуску. Яны карысталіся вялікай папулярнасцю ў народзе. Іх ведалі, спявалі, перадавалі з пакалення ў пакаленне. Дзякуючы падзвіжнікам нацыянальнага адраджэння, некаторыя з вершаў, напрыклад, "Гарэліца", "Дзеванька", пакладзеныя на музыку земляком Баршчэўскага, кампазітарам Антонам Абрамовічам, прагучалі на гэтай юбілейнай вечарыне ў выкананні заслужанага артыста Віктара Скорабагатава ў суправаджэнні на раялі Ганны Каржанеўскай. Пяру Яна Баршчэўскага належыць паэма "Рабункі мужыкоў". Генадзь Кісялёў, ацэньваючы ролю першапраходца і старэйшыны ў новай беларускай літаратуры, назваў яе "ўзорам творчасці на беларускай мове". На вечарыне прагучалі пераклады паэтычных твораў Баршчэўскага ў выкананні іх аўтараў Уладзіміра Мархеля і Івана Чыгрына.

Чаму ж паэт быў такім папулярным, любімым у народзе? Адказ на гэта пытанне знаходзім у самога Баршчэўскага: "Я не пераймаю формаў, якія любілі пісьменнікі англійскія, нямецкія або французскія; лічу, што чужаземнае не будзе пасаваць негаваркому жыхару Беларусі. Узяў я форму з самой прыроды. (...) Гэтая кніга прыроды вучыла мяне сапраўднай паэзіі, сапраўдным пачуццям лепей, чым сённяшнія гаваркія крытыкі, якія чужыя пачуцці і розныя здольнасці, дадзеныя чалавеку ад Бога, хочуць, быццам фрак, перашыць на сваю фігуру". Пра друкаванне сваіх твораў паэт не дбаў. На жыццё зарабляў рэпетытарствам і гувернёрствам, часам браўся за пэндзаль, пацяшаючы засцянковую шляхту карыкатурамі. Маляваў пейзажы. Прага пазнання свету паклікала яго ў далёкі Пецярбург. Там ён нейкі час служыў у марскім ведамстве, выкладаў лацінскую і грэчаскую мовы ў дзяржаўных установах, на працягу пяці гадоў выдаваў літаратурны штогоднік "Niezabudka" ("Незабудка"), вакол якога гуртаваліся беларусы, выхадцы з Віцебшчыны, Магілёўшчыны, Смаленшчыны -- тагачаснай Беларусі. Аднак амаль кожную вясну, як той жаўрук, ён вяртаўся на Радзіму, дзе бавіў час у пастаянных вандроўках па родным краі. Ёсць сведчанне, што з кіем пілігрыма ён абышоў Беларусь каля 30-ці разоў, дзе скрозь яго бачылі сярод простага люду. Ён збіраў паданні, якія паслужылі асновай для напісання балад.



Выхадзец з беднай шляхты, Ян Баршчэўскі ўдала спалучыў у сваёй творчасці сялянскі і шляхетны пачатак. Дарэчы, архівіст Зміцер Яцкевіч распавёў на гэтай вечарыне пра накірункі, у якіх вядуцца пошукі радаслоўнай пісьменніка. На жаль, пакуль яны безвыніковыя.

Ацэньваючы значэнне Яна Баршчэўскага, крытык, паэт, празаік Сяргей Кавалёў сказаў: "Нашыя адносіны да Баршчэўскага гавораць пра нас як пра нацыю". Хочацца спадзявацца, што мы спраўдзімся як нацыя, бо вяртанне нашага выдатнага продка працягваецца: яно і ў выданні "Шляхціца Завальні", у стварэнні твораў паводле кнігі (п'еса Сяргея Кавалёва "Звар'яцелы Альберт, або Прароцтвы шляхціца Завальні"), у здымках новага мастацкага фільма і ў гэтай вечарыне -- даніне пашаны і павагі нашаму земляку.

Герой кнігі Яна Баршчэўскага Завальня запальвае на падваконні свечку, каб у зімовую завіруху не збіліся з дарогі падарожныя, якія напрасткі ехалі па замёрзлым возеры Нешчарда. "Такім светлячком для нас, беларусаў, з'яўляецца кніга "Шляхціц Завальня", -- сказаў Генадзь Кісялёў.

У адным з вершаваных твораў Баршчэўскі звяртаецца да сваіх продкаў.

**Слынны продак! Магілы твае**
**без аздобы,**
**Там ніхто не паставіў**
**слупоў мармуровых,**
**Там бярозы рассыпалі**
**цені жалобы**
**Па каменні імшыстым ды**
**крыжах хваёвых.**

**Слынны продак! Бязлітаснай**
**праўды анёла**
**Бог пашле, каб твае**
**абудзіліся дзеці;**
**І натхніцца тваёй**
**дабрачыннасцю моладзь,**
**І вякі залатыя над**
**намі засвецяць...**

Чытаючы гэтыя радкі, мы міжволі звяртаемся да сваіх продкаў, да свайго мінулага, каранёў -- крыніцы нашага духоўнага адраджэння.

**Ірына ЛЯКСЕЕВА.**

КАРОТКАЯ ГІСТОРЫЯ МАГІЛЁЎСКІХ МУЗЕЯЎ

# ТРАДЫЦЫІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

Магілёў багаты сваёй гісторыяй, культурнымі здабыткамі, дзе не апошняе месца займала і музейная справа. Менавіта тут у 1867 годзе быў адкрыты першы дзяржаўны музей на Беларусі, а праз 30 год -- адзін з першых царкоўна-археалагічных музеяў.

У Магілёве склалася цалкам нармальная традыцыя, калі для музеяў не ўзводзілі спецыяльныя будынкі, а выкарыстоўвалі ўжо існуючыя помнікі архітэктуры. Так было з першым губернскім музеем, так і з адкрытымі ў апошнія часы музеямі Бялыніцкага-Бірулі, Мастацкага, Музея горада.

Самы стары магілёўскі музей, што існаваў яшчэ пры губернскім статыстычнм камітэце, размяшчаўся ў будынку, які захаваўся і зараз на плошчы Савецкай, 1 (сучаснае месца абласнога краязнаўчага музея). Сам будынак, помнік архітэктуры перыяду класіцызму, быў узведзены ў канцы XVIII стагоддзя па праекту магілёўскага губернскага архітэктара Івана Зэйдэля.

У канцы 1867 года, дзякуючы найперш намаганням і клопату правадзейнага члена і сакратара губернскага статыстычнага камітэта Г. Бібена, быў пакладзены пачатак першага дзяржаўнага музея на Магілёўшчыне і на Беларусі наогул. У ім было каля двухсот экспанатаў, якія ў сваёй большасці ўяўлялі старыя рэчы, што былі знойдзены на тэрыторыі губерні. Яшчэ адзін цікавы факт: музей трымаўся на дабрачынных ахвяраваннях магілёўцаў, а таксама на энтузіязме асобных з іх. Але апошніх, відаць, было недастаткова для нармальнага існавання музея, і ён месціўся ў невялікім пакойчыку. Новыя сілы ў жыццё музея ўдыхнуў такі неардынарны губернатар, як Аляксандр Дэмбавецкі (дарэчы, ёсць меркаванне, што ён быў пазашлюбным сынам Мікалая I). Менавіта дзякуючы ягоным намаганням, а таксама кіраўніка музея, тагачаснага сакратара статыстычнага камітэта Анатоля Сымаоўскага, пачалі прыводзіцца ў парадак і ўладкоўвацца матэрыялы і экспазіцыя.

У 1878 годзе была праведзена рэарганізацыя музея, вынікам якой з'явілася ўтварэнне некалькіх аддзелаў: гістарычнага, этнаграфічнага, геаграфічнага (геалагічны).

Тады ж пачаўся інтэнсіўны збор экспанатаў, што спрыяла ўсебаковаму вывучэнню Магілёва і губерні. Сабраная калекцыя мясцовых сельскагаспадарчых і этнаграфічных прадметаў экспанавалася на Усерасійскай выставе ў Маскве, дзе атрымала досыць высокую адзнаку спецыялістаў. Сам губернатар А. Дэмбавецкі быў узнагароджаны залатым жэтонам, А. Сымаоўскі -- залатым медалём.

Усё гэта, відаць, спрыяла новым паступленням старажытных рэчаў. Сярод паступленняў былі звычайныя прылады працы для вядзення сельскай гаспадаркі, саматужнай, фабрычнай і заводскай прамысловасці, а таксама рэчы, якія ўяўлялі значную гісторыка-культурную і мастацкую каштоўнасць. Напрыклад, у 1881 годзе ў гістарычны аддзел паступілі санкі Напалеона, кінутыя падчас уцёкаў у 1812 годзе ў Дуброўне ў маёнтку княгіні Любамірскай, фрагмент драўлянай аздобы будынка, у якім спыняўся Пётр I у Копысі з надпісам: "Благослави, Господи, дом сей и хозяев, живущих в нём, 1696 год"; вялікае разное залачонае крэсла, ababiтае каштоўнай парчой з выявай дзяржаўнага герба Расіі з вензелем Кацярыны II; грамата 1606 года караля Жыгімонта III і інш.

Апісанне і сістэматызацыю рэчаў, што паступалі ў музей, праводзілі вядомыя магілёўскія гісторыкі і краязнаўцы. Сярод іх варта прыгадаць Мацвея Фурсава. Яго намаганнямі ў 90-х гадах мінулага стагоддзя было выдадзена шэраг каталогаў музея. Плённая праца такіх археолагаў, як Фурсаў, Чагоўскі, Раманаў і іншыя, прывяла да неабходнасці ператварэння гістарычнага аддзела ў гісторыка-археалагічны. Адбылося гэта ў 1893 годзе.

Для этнаграфічнага аддзела былі зроблены манекены жыхароў губерні ў нацыянальным адзенні. Тут экспанавалася таксама батлейка з Быхаўскага павета, багатая калекцыя дзіцячых цацак, мадэлі сялянскага двара, розныя тыпы транспартных сродкаў і інш.

У геаграфічным (геалагічным) аддзеле былі прадстаўлены ўзоры мясцовай глебы, гербарыі раслін. Усяго ў музеі налічвалася каля 1 500 экспанатаў, асобныя з якіх, акрамя Масквы, экспанаваліся ў Вільні. Пасля рэвалюцыі большая частка экспанатаў была перададзена ў Магілёўскі губернскі музей (1919 год), які з 1939 года пачаў называцца Магілёўскі абласны краязнаўчы.

У канцы XIX стагоддзя Еўдакім Раманаў выступае ініцыятарам стварэння царкоўна-археалагічнага музея, дарэчы, таксама аднаго з першых такога кшталту музеяў на Беларусі.

Першае пасяджэнне камісіі па стварэнню Магілёўскага епархіяльнага царкоўна-археалагічнага музея адбылося 4 красавіка 1897 года.

Спачатку музей месціўся ў невялікім пакойчыку пры Васкрасенскай царкве. Потым музей быў пераведзены ў будынкі былога кляштара бернардзінаў. Пасля паўстання пад кіраўніцтвам К. Каліноўскага ён быў закрыты (у ім знаходзіўся дзяржаўны архіў). Кляштары бернардзінаў і касцёл Св. Антонія ў Магілёве былі заснаваны на сродкі Тодара Ржавуцкага ў 1687 годзе.

**(Заканчэнне на 8-й стар.).**

# МЕЦЬ АГУЛЬНАБЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ РЭЛІГІЮ

**(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.).**

Ёсьць і шэрагі вялікіх людзей -- дзяржаўных дзеячаў (Сапега), ваеўнікаў (Хадкевіч), асьветнікаў (Скарына), героў-барацьбітоў вызваленчых змаганьняў (Каліноўскі), песьняроў (Купала), вучоных (Карскі). Названы толькі адзінкі, нямногія з шэрагу найлепшых, імёнамі якіх можна б сьпісаць цэлыя старонкі. Чым лепш народ помніць сваю мінуўшчыну, чым глыбей ідуць карані ягонае гістарычнае памяці, тым больш ён апраўдвае імя нацыі і сапраўды ёю стае, бо нельга не згадзіцца з Эрнэстам Рэнанам у тым, што "нацыя -- гэта ўспамін аб вялікіх справах, зробленых разам". Вось гэты разнастайны ўспамін, тое, што здатна ў найбольшай меры сфармаваць беларусаў у нацыю, і павінна стаць агульнабеларускай нацыянальнай рэлігіяй, якая зможа аб'яднаць усіх беларусаў, незалежна ад таго, да якой веры яны належаць. Калі прадстаўнікі ўсіх беларускіх вераў аб'яднаюцца наўкол яе, гэтае рэлігіі, супольны Дом беларусаў, Беларуская дзяржава, будзе будоваю на камені, калі ж іхнія веры не будуць звязаны з ёю, кожная будзе цягнуць у свой бок, гэты Дом будзе будоваю на пяску.

Трэба памятаць, што душою дзяржавы ёсьць нацыя. Народ, які не ёсьць адзіны паводле мовы, нацыяй яшчэ не стаў. Але каб з'явілася цяга да беларускае мовы, трэба **перш за ўсё**, нават раней, чым па-беларуску загаварыць, -- **навучыцца па-беларуску думаць**. А да гэтага думаньня ўсіх беларусаў найпрасьцей прывесьці праз агульнабеларускую нацыянальную рэлігію (яна не патрабуе цэркваў, бо жыве ў сэрцы). Такую рэлігію, як бы хто яе ні зваў, маюць фактычна ўсе сапраўдныя нацыі. Яна мусіць з'явіцца і ў беларусаў, калі яны не хочуць памерці як народ і імкнуцца стаць нацыяй.

Аматары "кілбаснай ідэалёгіі", вядома, запытаюцца, якое дачыненьне ўсё гэта мае да надзённых патрэбаў народа --эканомікі, сельскай гаспадаркі, валюты, паліва, пераадоленьня інфляцыі, дабрабыту і іншых канкрэтных рэчаў. Адказаць не цяжка. Народ, які не стаў нацыяй, вобразна кажучы, дзіцянё. І розум, і сілы ў яго дзіцячыя, і таму ён мусіць або ісьці з працягнутай рукою пад плот, каб жабраваць, або слухацца наказаў старэйшых, дарослых (а таму і старшых) народаў, якія сапраўды сталі нацыямі. А калі ён непаслухмяны і пачынае "самастойнічаць" (не даросшы да гэтага), дык яго б'юць, і б'юць жорстка. Народ, які стаў нацыяй, падобны да дарослага, разумнага і дужага чалавека. Яму хопіць і розуму, і сілы, каб даць рады сабе самому ва ўсім, і сябе самога накарміць, і вырашыць самому ўсе надзённыя , блізкія і далёкія, пытаньні (не выключаючы й "найкілбаснейшых"), а ў разе чаго і сябе абараніць, не даць пакрыўдзіць. Як бачыце, зусім не аднолькавы лёс у таго народа, які нацыяй ужо ёсьць, і ў таго, які ёю, на жаль, яшчэ не стаў. А ўжо справа і самога народа, і яго правадыроў абіраць, які лёс ім больш падабаецца.

Са шчырым шанаваньнем

**А.ТКАЧЭНКА.**

**P.S.** Мне вельмі імпануе стары беларускі правапіс, і таму я наважыўся як мага больш да яго набліжацца ў гэтым лісьце. Выбачайце, калі ласка, за магчымыя памылкі. Кніжку ж, друкаваную гэтым правапісам, літаратурную беларускую анталёгію "Чырвоны дудар" (падарунак маёй маці ад Міхася Чарота) чытаў толькі ў маленстве, а пазьней нічога друкаванага гэтым правапісам амаль ніколі не сустракаў. Добра, што цяпер адраджаецца асьвячоная аўтарытэтам класікаў беларускай літаратуры сапраўдная беларуская мова, а чымраз больш русіфікаваны варыянт нібы-беларускай мовы адступае. Сэнс у гэтага варыянта быў адзіны: ён прызначаўся на тое, каб як мага хутчэй выціснуць беларускую мову нават ... з самое беларускае мовы, разлажыўшы яе з сярэдзіны. Але гэта ўжо тэма асобнай гаворкі.

З найлепшымі пажаданьнямі і вялікім дзякуй за цудоўную газэту

**А.ТКАЧЭНКА.**

Кіеў.

## ЗАМЕЖНЫМ ПАДПІСЧЫКАМ

**ШАНОЎНАЕ СПАДАРСТВА!**

**Калі вы хочаце і надалей атрымліваць "Голас Радзімы", а таксама іншыя беларускія выданні, прыватная фірма прапануе вам наступныя паслугі:**

**-- рассылка ўсіх беларускіх выданняў, уключаючы газеты, часопісы, асобныя кнігі, а таксама некаторыя выданні краін СНД;**

**-- размяшчэнне рэкламы замежных прадпрыемстваў у беларускіх выданнях;**

**-- прыём заказаў на аудыё- і відэазапісы беларускіх фалькорных і іншых калектываў, а таксама на дакументальныя фільмы аб гістарычнай спадчыне Беларусі на відэастужках;**

**-- дасылае фотаздымкі або каталогі ўзораў народнай творчасці (вышыванкі, вырабы з саломкі, скуры, дрэва і г.д.).**

**Аб усіх умовах падпіскі, вы зможаце даведацца ад прадстаўніка фірмы ў ЗША: ANNA BARTUL, 193-05 KENO AVE. HOLLISWOOD, N.Y. 11423, USA.**

**Усіх жадаючых далучыцца да справы ў якасці агентаў фірмы ў Аўстраліі і краінах Еўропы просім дасылаць свае каардынаты на адрас: 220047, Мінск, вул. Ілімская, 3-21 або ў рэдакцыю з паметкай "Падпіска". Па ўсіх пытаннях тэлефануйце:**

**(0172) 33-03-15;**
**(0172) 43-45-73,**
**факс (0172) 434785.**

# ТРАДЫЦЫІ ПРАЦЯГВАЮЦЦА

(Заканчэнне. Пачатак на 7-й стар.).

Драўляны комплекс знаходзіўся паміж вуліцамі Мікалаеўскай і Пакроўскай, якія зараз не існуюць. Гэта раён вуліцы Праванабярэжнай. Некалькі год таму падчас археалагічных разведак аўтарам былі знойдзены рэшткі падмуркаў, якія, магчыма, належаць мураванаму касцёлу Св. Антонія, што будаваўся ў перыяд з 1702 па 1720 год. Праўда, ігумен Арэста ў сваіх запісках піша, што касцёл і кляштар былі скончаны ў 1723 годзе, дзякуючы фінансавай падтрымцы прапаведніка Андрыяна Александровіча. Лёс гэтага баракальнага помніка, пабудаванага на пачатку XVIII стагоддзя, вельмі цікавы і патрабуе далейшых доследаў.

Пішучы пра Магілёўскі царкоўна-археалагічны музей, нельга не спыніцца на кароткай характарыстыцы ягонай калекцыі. Тут было шмат твораў, якія маюць вялікую мастацкую і гістарычную каштоўнасць. Сярод разнастайнага, у асноўным царкоўнага адзення, аздобленага залатой і срэбнай вышыўкай, варта вызначыць шытую шоўкам і золатам плашчаніцу 1666 года, якая быццам бы належала баярам Раманавым, а таксама срэбную мітру Г. Каніскага, збор друкаваных і рукапісных кніг XV--XVIII стагоддзяў, у тым ліку магілёўскіх, кракаўскіх, маскоўскіх і іншых друкарняў, вялікая калекцыя абразнага жывапісу, выкананая на дрэве і тканіне.

Усё гэта ў 1919 годзе таксама склала аснову губернскага музея. Аднак большая частка экспанатаў яшчэ і ў 1927 годзе ў даволі непрыбавым стане знаходзілася ў кляштарных будынках.

З 1919 па 1933 год у помніку архітэктуры, які быў пабудаваны ў 1914 годзе і спалучаў у сабе рысы псеўдарускага стылю і мадэрна, знаходзіўся Дзяржаўны гістарычны музей пралетарскай культуры. Будынак быў узведзены па праекту губернскага архітэктара Камбурава на былой Афіцэрскай вуліцы (зараз вуліца Міронава, 32) для сялянскага зямельнага банка, тут аднача́сна месціўся і дваранскі зямельны банк.

Прынамсі, бранірованы сейф у сутарэннях быў адзіным для абодвух банкаў, таксама як і дырэктар. У дваровай частцы будынка і цокальным паверсе жылі дырэктар і іншыя служачыя банка. Купал левага рызаліту быў упрыгожаны гербам Магілёўскай губерні: тры купіны на шпілі. На шпілі правага купала быў трохгаловы царскі арол (з якога боку ні глядзіш, усё роўна бачна толькі дзве галавы). Пазней тут знаходзіліся акружкомы і гаркомы партыі і, нарэшце, карцінная галерэя і мастацкі музей.

У 1932--1937 гадах у Магілёве існаваў музей гісторыі рэлігіі і атэізму, які з'яўляўся філіялам абласнога краязнаўчага музея, знаходзіўся ў выдатнейшым помніку класіцызму канца XVIII стагоддзя, былым Іосіфаўскім саборы, пабудаваным па праекту архітэктара Львова, пры ўдзеле Нобіле. Помнік быў па-варварску ўзарваны ў сярэдзіне 30-х гадоў. У музеі дэманстраваўся маятнік Фуко, палеанталагічная і археалагічная калекцыі, былі экспазіцыі, прысвечаныя гісторыі хрысціянства і атэізму на Беларусі і, у прыватнасці, на Магілёўшчыне.

Як ужо адзначалася вышэй, у будынках, цікавых помніках архітэктуры XVII стагоддзя, знаходзяцца музеі дзекабрыстаў, Бяльніцкага-Бірулі і ствараемы Музей горада. Пра першыя два шмат згадваецца ў апошні час у мясцовай прэсе, хацелася б некалькі слоў сказаць пра апошні.

Варта адзначыць, што да гэтага часу даследчыкі не прыйшлі да высновы пра будаўніцтва і аўтарства гэтага помніка. Але большасць з іх прытрымліваецца меркавання, што архірэйскі, ці арцыбіскупскі, палац быў пабудаваны для Г. Каніскага недзе ў 1762--1785 гадах па праекту выдатнага архітэктара Яна Крыштафа Глаўбіца. Хочацца нагадаць, што гэты архітэктар перабудаваў Полацкую Сафію і шмат іншых храмаў на Беларусі. Магілёўскі палац пабудаваны ў стылі позняга барока ці ракако.

Ёсць надзея, што пасля рэстаўрацыі ён стане не толькі сапраўдным музеем, але і цэнтрам культуры.

**Зміцер ЯЦКЕВІЧ.**

ПА КАРАТКЕВІЧУ

# ХУТКА "ХРЫСТОС ПРЫЗЯМЛІЦЦА Ў ГАРОДНІ"

Нядаўна адбылася прэм'ера спектакля "Містэрыя" паводле рамана Караткевіча "Хрыстос прызямліўся ў Гародні". Пастаноўку, прымеркаваную да 76-й гадавіны абвяшчэння БНР, ажыццявіў народны тэатр чытальнікаў "Жывое слова" пры Беларускім педагагічным універсітэце.

Пазней адбудзецца другі паказ, а потым з другой праграмай студэнцкі тэатр выехаў выступаць па рэспубліцы. "Прызямліцца" ў Гродне трупа плануе ў гэтым годзе. А пакуль аўтары сцэнічнай інтэрпрэтацыі Алена і Юрый Чарнкі прапаноўваюць гледачам сваю трактоўку рамана, якая, пазбягаючы прамога ілюстравання гістарычнай эпохі, апялюе да асацыяцыйнага ўспрыняцця гледача. Для гэтага спектакль вырашаны ў эстэтыцы тэатра, які падарожнічае, дзе гледачы становяцца саўдзельнікамі падзеі. Вядомы раман Караткевіча атрымлівае актуальнае гучанне пры дапамозе канцэптуальнай сцэнаграфіі Надзеі Каготкінай і музыкі А.Чакалкіна, Э.Вебера, што выкарыстоўваюцца ў пастаноўцы.

# ВАС ШУКАЮЦЬ І ЧАКАЮЦЬ СВАЯКІ



Родная сястра маёй бабулі -- **СТУЛЬБА Марыля Паўлаўна** 1888 года нараджэння, якая пражывала ў вёсцы Жавалкі Капыльскага раёна Мінскай вобласці, у 1909 годзе выехала ў ЗША, пасялілася ў Нью-Йорку. Тут яна выйшла замуж за свайго земляка з Капыльшчыны **ЯНУШКУ Івана.**

З ЗША мая бабуля да вайны атрымлівала пісьмы. Захаваўся і фотаздымак, дзе акрамя **МАРЫЛІ і ІВАНА** (на здымку твар бачны часткова) ёсць мужчына з дзяўчынкай і яшчэ маладая пара.

Мужчына -- гэта Марылін і маёй бабулі сваяк **БАГДАНОВІЧ Фама Вар'янавіч.** Дзяўчынка -- **СОНЯ,** дачка Марылі.

**У Марылі і Івана** было яшчэ і сын (Саша ці Коля).

Потым удалося даведацца, што **Багдановіч Ф.В.** пражываў у апошні час са сваёй жонкай (Насцяй) у г. Су-Сіці ЗША (на другім здымку -- **БАГДАНОВІЧ Ф.В.**).

Калі хто-небудзь ведае ці памятае пра лёс родных маёй бабулі -- **СТУЛЬБА Аляксандры Паўлаўны,** просьба паведаміць на адрас:

**Рэспубліка Беларусь, 210010, г. Віцебск, вул. Лазо, 11--94. ПЕНЗАВАЙ С.В.**



## СПОРТ

ВЯДОМЫ беларускі звышмарафонец Сяргей Коваль на адкрытым першынстве Расіі прабег 100 кіламетраў за 6 гадзін 26 мінут 55 секунд. Гэта пяты вынік сезона ў свеце.

Прэзідэнт Сусветнай асацыяцыі ультрамарафона Кэмпел (Вялікабрытанія) паабяцаў садзейнічаць запрашэнню мінчаніна на першынство планеты, якое пройдзе летам у Японіі.

АСАЦЫЯЦЫЯ тэнісістаў-прафесіяналаў (АТП) распаўсюдзіла спіс ігракоў, якія зарабілі на спаборніцтвах сёлетняга года найбольшую колькасць прызавых сум. Услед за Штэфі Граф (Германія) і Арантай Санчэс (Іспанія) трэці радок тут займае Наталля Зверава (Беларусь) -- 359 327 долараў.

У ПАЛАЦЫ СПОРТУ Мінска адкрылася фотавыстаўка, прысвечаная Міжнароднаму году спорту і Алімпійскага ідэала, абвешчанаму Генеральнай Асамблеяй ААН па прычыне стагоддзя МАК. Больш ста жанравых работ расказваюць аб былых галоўных спаборніцтвах, алімпійцах Рэспублікі Беларусь, алімпійскіх спартыўных комплексах Раўбічы і Стайкі.

ЛЕТАСЬ мы амаль што не бачылі штангіста з Гродна Аляксандра Курловіча на значных міжнародных спаборніцтвах. А ў гэты час атлет з Германіі Роні Велер устанавіў новы сусветны рэкорд у суме двухбор'я: 442,5 кілаграма.

Нядаўна беларускі асілак удзельнічаў у міжнародным турніры ў Германіі, дзе змог вярнуць сабе рэкорд свету. Яго пераможная сума -- 445 кілаграмаў.


Рэдактар Вацлаў МАЦКЕВІЧ

ЗАСНАВАЛЬНІК:

Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за рубяжом (таварыства "Радзіма").



НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ПРАСПЕКТ Ф. СКАРЫНЫ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Пазіцыя рэдакцыі і аўтараў, матэрыялы якіх друкуюцца на старонках "Голасу Радзімы", не заўсёды супадаюць.

Газета набрана і зверстана ў камп'ютэрным цэнтры рэдакцыі газеты "Вечерний Минск". Аддрукавана ў друкарні "Беларускі Дом друку". Тыраж 6 000 экз. Індэкс 63854. Зак. 520. Падпісана да друку 18. 4.1994 г.